startravel

ЗАО "Экспо-Трэвэл"
Centre For Cultural Exchanges
Центр Культурных Обменов

# В РОЗЫСКЕ

## ДО 3 МАРТА!






# СТУДЕНТЫ

## ДЛЯ РАБОТЫ ЛЕТОМ

# В США!




ул. СУРГАНОВА 47, офис 8

тел.: 202-00-81, 231-16-93, 232-50-28

www.startravel.by

Лицензия №925 выд. Комитетом по миграции при МТ РБ от 11.12.2000г. - 2005г.





Ніколі не гарэлі жаданьнем скаціцца да канстатацыі ўласнай банальнасьці? Крыўдна: асабісты інтэлектуальны гераізм і сьмеласьць так лёгка разьбіваюцца аб рыфы народнай мудрасьці. "Рок-н-рол із дэд", - яўна народная рэпліка. Толькі той не пабаіцца быць занадта грубым і просталінейным, каб сказаць пра набалелае. Але час сьцірае ўсе вострыя вуглы мэтафар, і таму маем, што маем. Абрывак. Ён не выклікае ніякіх эмоцыяў. Апрача абыякавасьці і зьдзіўленьня: нехта яшчэ здольны глядзець на такія рэчы сур'ёзна і пыхліва: **"Рок-н-рол із... "**. Будзь прасьцей, і да цябе пацягнуцца!

**"Рок-н-рол із..."** - прэтэнцыёзна. Калі хочаце, назавіце гэта вартай шкадобы правакацыяй, якая сьведчыць пра аўтарскую абмежаванасьць. Ну так, апошняе - вельмі трапна. Абмежаванасьць. Менавіта яна. Абмежаванасьць росту. Запытайцеся самі ў сябе пра самыя яркія мэмуары - яны засталіся ад часоў, калі адрэналін і тэстастэрон скакалі пад **"музыку супраціву"**. Падраныя брудныя джынсы, **"лучаўскія" "трактары"**, кашуля з флянэлі ў клетку і кепскія кітайскія аўдыёкасэты, на якіх запісаныя няўцямныя гукі і рыкі - удала скроеная ануча для бацькоў.

Ня **"дэд"**, не - усё нашмат прасьцей. Ёсьць нешта, і яно быццам мае шанцы вярнуць да недажытага дэжаву.

І пакуль проста: **рок-н-рол ёсьць**.




## знойдзеш нас у гэтых месцах

- крама **"TOM TAILOR"** (Менск, пр. Скарыны, 37)
- крама **"LEVI'S"** (Менск, пр. Скарыны, 48)
- крама **"ПОДЗЕМКА"** (Менск, пр. Скарыны, 43)
- крама **"БУНКЕР"** (Менск, вул. Казлова, 14)
- крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44)
- крама **"МИСТЕРИЯ ЗВУКА"** (Менск, вул. Няміга, 12)
- ГЦ **"ПАРКИНГ"** (Менск, вул. Куйбышава, 40, крама "FUJIfilm")
- аўтобусы **"INTERCARS"** і офіс **"INTERCARS"** (Менск, пр. Машэрава, 19, оф. 1-6)
- крама **"ПЕРЕХОД"** (падземны пераход каля ГУМа)
- крама **"КОМПЬЮТЕРНЫЙ МИР"** (вул. К.Чорнага, 31)
- інтэрнэт-клюб **"iPOINT"** (вул. Румянцава, 15)
- інтэрнэт-цэнтар **"Площ@дка"** (пр. Скарыны, 58-4)
- **"ЦЕНТР МОЛОДЕЖНЫХ ПУТЕШЕСТВИЙ"** (вул. Варвашэні, 17-101)

CD **/СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА/ #2 (86) 2003 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай Думкі"

**Галоўны рэдактар** Ірына Віданава

**Рэдактары**
Мікола Шакель /mikalaus@hotmail.com/
Сяргей Сахараў /2ss2@tut.by/

**Камэрцыйны дырэктар**
Аляксандар Казлоўскі
/alex-iskander@mail.ru/
/па пытаньнях рэклямы - 8 (029) 626-69-36/

**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка

**Вёрстка** achuma_group
**Дызайн вокладкі** vitaminv
**На вокладцы** Слава Корань /гурт ULIS/
**Фота** Уладзімер Скамарошчанка

**Адрас рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр:** 206-75-75, абанэнт "DУМКА"
**Адрасы для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90
studumka@tut.by
www.studumka.com

Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.

Меркаваньні аўтараў часопіса не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за рознага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.

Правамі на матэрыялы валодае рэдакцыя часопіса "Студэнцкая думка". Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка абавязковая.
Тэксты, якія не замаўляліся, рэдакцыя не вяртае.

Друкарня ТДА "НоваПрынт".
Ліцэнзія ЛП № 285, выдадзеная Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь 28.07.1998 г.
Фармат 60x84 1/8
Папера мелаваная 90 г/м$^2$
Падпісана ў друк 19.02.2003 г.
Замова № 469
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны

# ЗЬМЕСТ



ЗУБЫ ГЭЛАХЕРА
7



ПАЦАЛУНАК
толькі пачатак
34-35



26-27



16-19



24-25



32-33



13

## "ЦВЕТЫ" РАДЗІМЫ




Забудзьцеся на раку, у якую некалі ўваходзілі, раз і назаўжды. Да вашага новага прыходу яна можа стаць маласводнай ці наагул зацьвісьці.
Шукаць новыя эмоцыі ў пашыраным на некалькі квадратных мэтраў клюбе ~~"28"~~, які зараз называецца ~~"Цветы"~~, аказалася ня марнай справай. Імправізаваная рэстарацыя са сцэнай для "жывых" выступаў, private room і паўпусты танцпол у пятніцу ня ўражваюць. Фібры агрэсіўнай насьцярожанасьці, якія плаўна перацякаюць у непрыхаванае жлобства з боку пэрсаналу і адміністрацыі, таксама ня новыя для менскіх клябэраў, але тут квітнеюць нейк адмыслова, арыгінальна, што ня можа ня выклікаць замілаваньня.



Прыходзьце сюды зь сябрамі - буйнымі, вясёлымі, зь нестандартным пачуцьцём гумару. Замоўце ў бары ня першай сьвежасьці ~~"Советское"~~, зашыйцеся ў цёмны private room і рыхтуйцеся назіраць. Garcons у фізіялягічнай і эмацыйнай экіпіроўцы ~~"сініх каўнерыкаў"~~, якія на пытаньне ~~"хто тут каму вінен"~~ маюць адназначны адказ, баявога выгляду саліставу спартовых касьцюмах, што дэфілююць паўз face control, і адміністрацыю, якая нахабна імкнецца ідэнтыфікаваць ваш адналолы сяброўскі саюз як гома. Калі апошняе, на вашую гетэра-бяду, падаецца ім аксіёмай, сьвятло ў пастаянным рэжыме "вкл." і незадаволенае ~~"без света нельзя"~~ (really?) разбураць аднастайны private у адну хвіліну. Вось тады і пачынаецца сапраўдны fun: "весялуха" паступоваператвараецца ў тэатралізаваную пастаноўку, якая нагадвае выкрывальныя савецкія фільмы пра "сов-общепит" з хамаватымі адміністратаркамі і пакрыўджанай інтэлігенцыяй у галоўных ролях. У фільмах усё заканчваецца вясельлем. Наўрад ці такое атрымаецца ў вас, але бліжэй да чацьвертай гэта ўсё стамляе і выдае на неактуальную безгустоўшчыну.

## ЯШЧЭ РАЗ, ЯК ПЕРШЫ

Заўзятары беларускага рок-мэйнстрыму рыхтуюць пікі: у прадусарскіх колах цыркулюе інфармацыя, што трыб'ют "Песьнярам", а пасьля "Дэпешам" працягне ня "Дорз", але ~~N.R.M~~. Інфармацыю ня можа сьцішыць ні маўчаньне магчымых кантораў-вытворцаў артэфакту, ні абыякавыя камэнтары



N.R.M.

вінавайцаў. Адзінае, што яе пацьвярджае - хаатычныя целарухі маладых рок-бэндаў, якія спадзяюцца кампэнсаваць ранейшую ўласнатворчую прафанацыю року як такога выкананьнем шлягераў ~~Вольскага і кампаніі.~~
Тым ня менш, сярод яўных аўтсайдэраў эстрады, якія прагнуць "прасьпяваць пра каханьне", былі заўважаныя мэгазоркі - поп-ансамбль ~~"Краски"~~. Па чутках, прадусары гурта выказалі жаданьне паўдзельнічаць у праекце і выканаць адну з кампазыцыяў. Як меркавалася, гэта могуць быць "песьні пра каханьне", якія цалкам бы адпавядалі і эстэтыцы, і мэтавай групе, на якую арыентуюцца "Краски". Але чаканьні не апраўдаліся: як кажуць правераныя крыніцы, сёньня запісаная музыка і амаль адаптаваны пад яе тэкст на песьню "~~Тры чарапахі"~~, што выбухнула колькі год таму.
Крыніцы замоўчваюць, як будзе называцца трыб'ют.


9-11 красавіка 2003 году
Студэнцкі Фэстываль Рэкламы
CREON
http://www.adcreon.com
Для маладых, актыўных і таленавітых...
Для будучых спэцыялістаў рэклямнага сьвету...
5 намінацыяў
аўдыё-рэкляма
відэа-рэкляма
вонкавая рэкляма
друкаваная рэкляма
інтэрнэт-рэкляма
У праграме:
- Конкурс працаў
- Майстар-клясы
- Цырымонія ўзнагароджаньня
- Дыскусіі рэклямшчыкаў
Чакаем вашых заяваў. Падрабязнасьці на сайце http://www.adcreon.com


http://media.elife.by

















## ЗЬДЗІЎЛЕНЬНЕ

**11 сакавіка** на сцэне **Палаца Рэспублікі** адбудзецца канцэрт **"Нагуаль"**.
Нагуаль - гэта этна-авангард. Новыя формы і архаічныя этнічныя матывы, якія зьліваюцца ў вар'яцкім і таямнічым "варыве" гуку і танцаў.



Іх галоўны плюс - своеасаблівая інтэрактыўнасьць. На выступах "Нагуаль" музыкі ўцягваюць публіку ў дзеяньне, ператвараюць простага гледача ў сябра племені, які разам зь імі танчыць пад рытм, што падказвае цела. Так было і на майстар-клясе, якую яны зладзілі мінулай восеньню ў Менску. Падчас дзейства хлопцы паказвалі ўдзельнікам, як можна выкарыстоўваць для стварэньня музыкі звычайныя прадметы і ўласнае цела, вучылі самаму галоўнаму прынцыпу, што характарызуе сапраўднае самавыражэньне, - спантаннасьці.
Ці пасуе яна вам - паспрабуйце зразумець у Палацы Рэспублікі.

*М.Андрэеў*

## ST. VALENTINE'S DEATH

Трагедыяй для ўсіх закаханых скончыўся ~~Дзень сьв. Валянтына~~.
14 лютага пайшла з грэшнага сьвету тая, чыё жыцьцё апошнія шэсьць год давала надзеі на несьмяротнасьць.
Мы думалі, што дзякуючы ёй можна будзе жыць і кахаць вечна. Памылка... Іншы сьвет паклікаў пакутніцу ~~Долі~~, тую самую авечку, якая лягла на алтар біягенэтыкі і кланаваньня і ўсё сваё жыцьцё прысьвяціла прыкладной навуцы.

14 лютага ~~Roslin Insitute~~, alma mater Долі, праінфармаваў грамадзкасьць пра тое, што яго супрацоўнікі ўсыпілі дачку свайго ж экспэрымэнту. Яна хварэла на нейкае лёгачнае захворваньне, якое не давала жывёле ніякіх шанцаў. Гэта падаецца тым больш дзіўным: падобнага кшталту хваробы распаўсюджаныя ва ўсіх авечак, але чамусьці толькі Долі зьведала на ўласнай скуры радасьці эўтаназіі.
Магчыма, тайна сьмерці зьвязаная яшчэ і з наступным: адзін з "бацькоў", нейкі Элан Колман, паведаміў, што яшчэ ў 1999 г. навукоўцы заўважылі: клеткі Долі старэюць з ашаламляльнай для яе ўзросту хуткасьцю. Пытаньне было зьнятае пры бліжэйшым вывучэньні: аказалася, што падчас працэсу кланаваньня клеткам задаецца ўзрост "маці/бацькі", і народжаны пацыент-клон апрыёры старэйшы за сваіх "аднагодкаў", зачатых натуральным шляхам. Долі ад пачатку рызыкавала пражыць 7-8 са звычайных 11-12 гадоў, якія адцянялі пастаянныя прыступы артрыту - яго нядаўна знайшлі ў авечкі.
Сьмерць такая штука...
Але не да такой жа ступені: за тыдзень да Долі нечакана памерла авечка-клон ~~Матыльда~~, маладзейшая за першую на 4 гады. Памерла раптоўна і бяз бачных прычынаў. Тым часам раэліты, сьвядомыя нашчадкі іншаплянэтнікаў з кампаніі ~~Clonaid~~, заявілі пра зьяўленьне Эвы, першага чалавека-клона. Колькі год клеткам немаўляці, невядома.
"Відавочна, гэта канец цэлай эпохі. Я вельмі любіў старэнькую", - прызнаўся Колман.
Мы таксама, дзядзька. Нам усім будзе яе вельмі не хапаць...

## АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ КЛЯБІНГ




Народныя трэш-забаўкі кшталту кухонных пасядзелак, публічнага караоке, актыўнага выпіваньня ў боўлінг-цэнтрах і інш. сталі надзвычай папулярнымі на Захадзе.
Стомленасьць ад нудотнага клябіліці невыносная - гэта дало шанцы простым, а таму масавым спосабам баўленьня часу набыць сваю аўдыторыю сярод клябэраў. Мода на old school васьмідзясятых прапануе па-новаму зірнуць на адпачынак.
Пакуль вэстэрнізатары ласуюцца самаробнымі прысмакамі і пад лаўнж папіваюць пунш на хатніх вечарынках, абарыгены ўзгадваюць старадаўнія традыцыі, запачаткаваныя тутэйшымі актывістамі-інтэлектуаламі.



Брытанец зь лёнданскім імем ~~Бэн~~, філямат адной зь менскіх установаў адукацыі, арганізоўвае для абмежаванага кола сяброў г.зв. ~~"літаратурныя чытаньні"~~. Месцы выбіраюцца адпаведныя - кавярні ці бары, дзьверы якіх будуць адкрытыя для ўсіх ахвотных з вуліцы. Пад мернае пастукваньне пляшак аб куфлі, у якія бармэн пры вас вылівае таннае ~~"Залатое"~~ (АП "Алівария"), пад музыку і безь яе паэты чытаюць вершы. Ужо праз колькі хвілінаў захоплівае сам працэс, і нацягнутая штучнасьць падзеі сыходзіць. Яе ажыўляюць і ~~"прыхадні"~~ з вуліцы, у іншы час звычайныя паляўнічыя на танны "комплексны абед", а зараз - самыя патрабавальныя слухачы. Іх падбадзёрваючыя ~~"класна сказаў"~~, ~~"нармальныя сьціхі"~~ ці ~~"х... знае што"~~ - лепшыя вымяральнікі таленту.
Недахоп падобных вечарынак у Менску - боязь кічу (а таму і замалыя яго памеры): напрыклад, музычнае афармленьне, ці не галоўны кампанэнт любой вечарынкі, для арганізатараў не сягае за fm-далягляды "Мелодий века", хаця зусім натуральным у такім антуражы выглядалі б саўндтрэкі, складзеныя па выніках ~~"Чырвоных гвазьдзікоў'83"~~ (рэйтынгавая праграма БТ) ці караоке ў духу "Цячэ вада ў ярок", "Мае вочы чорныя" і інш.
Што да самых пэрспэктыўных месцаў адпачынку, раім зазірнуць у кавярню ~~"Сьвіцязянка"~~ ці хаця б у задрапіраваную ў бардо забягалаўку, якая з правага боку ад Фэлікса Дзяржынскага.

CD-MODEL part2









**METROPOLITAN MODEL AGENCY MINSK**
агенцыя, дзякуючы якой стаўся магчымым гэты конкурс

пераможца конкурсу
CD-MODEL part2
# НАТАЛЯ БІНДАСАВА

ПАДВЕДЗЕНЫЯ ВЫНІКІ КОНКУРСУ
# EXTRA LIFESTYLE
АБВЕШЧАНАГА Ў "CD" № 11-12 /2002/

## ПРЫЗЭРЫ:

* **ЦЭНЦІЙ АЛЁНА** /АДХАПІЛА КЛЁВЫ ЧАХОЛ ДЛЯ СВАЁЙ МАБІЛЫ/
* **ЯЦЫНОВІЧ МІКІТА** /ЗАБРАЎ СТЫЛЁВЫ ЗАПЛЕЧНІК/

УСЕ ДРУЖНЕНЬКА СКАЖАМ ДЗЯКУЙ КРАМЕ **EXTRA**, ШТО НА **ПР. СКАРЫНЫ, 43**. УПЭЎНЕНЫЯ, ШТО ГЭТА НЕ АПОШНІЯ СЮРПРЫЗЫ АД **EXTRA** ДЛЯ ЧЫТАЧОЎ **CD**. А САМ ПРАЦЭС ВЫЦЯГВАНЬНЯ ШЧАСЛІВЫХ ПАПЕРАК ТЫ МОЖАШ НАЗІРАЦЬ ТУТ>>

**P.S.** ДЛЯ НАШЫХ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ ЧЫТАЧОЎ: **ХАРУКІ МУРАКАМІ** - ГЭТА ТАКІ ЯПОНСКІ ПІСЬМЕНЬНІК.









КОНКУРС АД КРАМЫ **CAMELOT**
ШУКАЙ НА **С. 40**







тэкст: Гальяш Патаповіч

# ЗУБЫ ГЭЛАХЕРА

цяперашні rock'n'roll патрабуе ўсё больш чалавечых ахвяраў

Па шчырасьці, я хацеў бы бачыць Піта мёртвым. Мёртвым да таго, як ён пераступіў мяжу старасьці. Мёртвым да таго, як ён глынуў духу карпаратывізму, амэрыканскага і эўрапейскага. Да таго часу, калі ён - Pete Townsend - склікаў прэсавую канфэрэнцыю на другі дзень па сьмерці The Ox, дзе заявіў, што турнэ The Who па Амэрыцы будзе працягнутае, нягледзячы на сыход John Entwistle. Бо ён пэрсанальна нясе адказнасьць: a) за тое, што трэба працягваць, b) за абавязкі перад сабой, c) перад людзьмі, што набылі квіткі, d) перад пэрсаналам, e) прамоўтэрамі, f) вялікімі і g) малымі людзьмі.

Тое ж і пра Ozzy - блазнаваньне ў сямейным сэрыяле MTV пасьля здабыцьця тытулу караля цемры і пажыральніка кажаноў?! Таксама, як і найлепшыя часіны Ozzy Osbourne, золата The Who сталася гісторыяй. Мінуў час, калі Pete Townsend быў жывым увасабленьнем RnR. Высунутым пальцам - самым даўгім, вядома ж - усёй рок-музыкі. З максымальным гукам, з пасядзелкамі ў алькагольных барах, жорсткімі п'янкамі і выступамі на наступны дзень. Са знакамітымі раструшчваньнямі гітары перад натоўпам з 400 тысячаў сьмярдзючых гіпі ў Вудстоку.

І найлепшым доказам на карысьць меркаваньня, што RnR мёртвы, зьяўляецца постаць таго ж Pete Townsend. Бо немагчыма сёньня ўявіць рокера бяз тонаў абсталяваньня і багажу, вялізных камандаў падтрымкі, прамоўтэраў, тэхнікаў і г.д. Страта аднаго з такіх элемэнтаў у дзевяці выпадках зь дзесяці вядзе да адмены канцэрту ці наагул туру.

Таму гаварыць цяпер, што The Who - гэта The Who, папросту нетактоўна. Драмэр Keith Moon (як той казаў, "больш за драмэра - гэта дух The Who") пакінуў гурт у 1978 годзе па той жа прычыне, што і летась John Entwistle. Цяпер The Who - гэта толькі Roger Daltrey ды сам Pete Townsend. І таму лепей сказаць, што мы маем справу з трыб'ютам (літаральна з ангельскай - даніна павагі). Як і Lynyrd Skynyrd ці Styx - такая ж самая Даніна Павагі.

Між тым цяперашнія лепшыя пэрсанажы R&B заслугоўваюць большай павагі. Вазьміце хаця б таго ж вялікага соўл-бразэра R.Kelly - якраз той выпадак, калі бацькі сурова забараняюць сустракацца з такімі маладзёнамі сваім дачкам і сынам. Альбо згадайце 2Pac і Notorious Big ды ўсе абставіны іх сьмерцяў. John Entwistle памер адзін у ложку - і ніякіх групі, прастытутак, наркотыкаў ці хоць бы алькаголю. Таксама, як вельмі ціха пайшоў з жыцьця Joe Strummer.

"Та дзе аблокі на мэйным небі?" - рытарычна пытаўся мой знаёмы музыка. Дайце нам новы Exile On the Main Street, мы засумавалі па загружанай цяжкімі алькагольнымі напоямі, наркотыкамі, скандаламі і бойкамі музыцы. Мы хочам новых разборак і сэкс-скандалаў Tommy Lee. А таксама новых выбітых зубоў Liam Gallagher. Загрузіце нас усім гэтым - а яшчэ лепей дайце нам крыві.

Сёньня RnR патрэбны новы Kurt Cobein ці Jimmy Hendrix. Нехта такі таленавіты, такі "жывы", што рэха стрэлу абудзіць нас ад сну, і мы нарэшце адчуем: ён ёсьць і застанецца героем. Сёньня RnR патрэбная вялікая і патэтычная сьмерць, якая станецца працягам ня менш слаўнага жыцьця і адгукнецца ў вушах тысячаў-мільёнаў.

Напачатку свайго існаваньня (90-я) у віншавальнай праграме Радыё Рокс адмаўляліся запускаць Roxette, матывуючы "чысьцінёй" радыё ад папсы - адно што выбару слухаць было небагата. Сёньня ж adult contemporary немагчыма ўявіць бяз той музыкі канца 80-х - пачатку 90-х. Усё мяняецца - цяпер публіка радая абсмоктваць абвінавачаньні Gary Glitter ці таго ж Townsend у дзіцячай парнаграфіі. Між тым рок-зоркі паміраюць ціха, даючы падставу згадаць посьпех у 70-80-х, але трапляюць у CNN Headline News.

Зрэшты, любая няўклюда кшталту Eric Clapton можа навучыцца трымаць гітару. А таму "няма хлеба - ешце піроржныя," як казала некалі Марыя Антуанэта.

# І НЯХАЙ ВАШ

пытаньні: Васіль Церах
фота: Уладзімер Скамарошчанка



ШОУ-
БІЗ
НЭС

# ІДЗЕ У ДУПУ



**СЛАВА КОРАНЬ**, ЛІДЭР ГУРТА **ULIS**, АДКАЗВАЕ НА ПЫТАНЬНІ **CD**

**СЛАВА, НЕШТА ДЗІУНАЕ АДБЫВАЕЦЦА З РОКАМ У БЕЛАРУСІ. ЁН ЗАЙМАЕ АСНОУНАЕ МЕСЦА НА Т.ЗВ. МУЗЫЧНЫМ РЫНКУ: НІ ЭЛЕКТРОННАЯ МУЗЫКА, НІ ПАПСА НЕ ДАСЯГНУЛІ ЯШЧЭ ТЫХ ПАЗЫЦЫЯУ, ЯКІЯ МАЕ РОК. ЧАМУ ТАК?**

У Беларусі рок-культура насамрэч такая... жывенькая. І калі Стынг заявіў, што рок памёр, - ён сказаў гэта, таму што ён лідэр поп-гурта і пайшоў граць поп. Для яго рок памёр, і памёр з-за шоў-бізнэсу. Тое самае было і ў Расеі, і на Ўкраіне. Зьявіліся вялікія грошы, і гэтыя грошы адціснулі рок на задні плян. У Беларусі ж няма вялікіх грошай. Няма людзей, якія б прапанавалі беларускім музыкам магчымасьць зарабляць. Тут грай ты рок, грай ты поп, грай што заўгодна - усё адно не заробіш. Таму маладыя людзі спрабуюць выразіць свой стан самым простым чынам (хаця гэта менавіта ім падаецца, што самым простым) - граючы рок. І калі гэты спосаб самавыражэньня пойдзе далей за два-тры акорды, калі чалавек насамрэч таленавіты і будзе спрабаваць знайсьці сваю лінію - ён сябе зробіць. Галоўнае - не пайсьці на повадзе ў папулярных гуртоў, якія і з Захаду, і асабліва з Усходу на нас ціснуць. Усходнюю, расейскую музыку наагул лягчэй граць. А там вялікі рэгіён, і тыя камандачкі - зараз іх шмат зьявілася, асабліва па БТ ва ўсякіх гіт-момантах - яны граюць падобна да маскальскіх камандачак і спадзяюцца зарабіць у Маскве грошы. Дарма спадзяецеся.

**А ЯКІЯ АЛЬТЭРНАТЫВЫ? ТВАРЭНЬНЕ У СТОЛ? АЛЬБО РАЗЬВІЦЬЦЁ - АЛЕ АТРЫМАЕЦЦА СТЫНГ ПЛЮС ШОУ-БІЗНЭС.**

Не. Хіба тутэйшага року ў тым, што ён пачаў разьвівацца пазьней на дзесяць-дваццаць гадоў, чымся заходні. Спрабуючы дагнаць папулярнасьць заходніх камандаў, ён праскочыў нешта вельмі важнае - духоўнасьць. Засталася толькі абалёнка, форма бязь зьместу. Яна можа быць нават лепшая, чым у некаторых заходніх камандаў, але зьмест фактычна адсутнічае. А гэта ўжо ня рок. І ніякае не мастацтва. Гэта называецца рамесьніцтвам. У нас вельмі шмат рамесьнікаў, якім наканавана працаваць толькі тут, у крайнім выпадку ў Расеі. Там, дзе людзям не да энэргетыкі, дзе ім усё роўна, пад што жаваць.

**ДЫК, УЛАСНА КАЖУЧЫ, ДЛЯ ЧАГО ПРАЦУЕЦЕ ВЫ?**

Я працую з разьліку, што ўсё-ткі дажыву

1. **Рок жывы? *(так - не - ня ведаю)***
Так.

2. **Рок разьвіваецца?**
Разьвіваецца. Няважна, у які бок. Усё адно.

3. **У якой краіне Вы хацелі б жыць?**
У свабоднай.

4. **Ваш любімы гук?**
нешта, што нагадвае жалейку, валынку ці ражок.

5. **Слава Корань - ________ музыка *(устаўце прапушчанае)*.**
слава Корань - добры чалавек.

да таго часу, калі сярэдні ўзровень насельніцтва падымецца да гурта ULIS, будуць купляцца нашыя праграмы, будуць канцэрты, і на канцэрты будуць хадзіць людзі. А болей нічога і не патрэбна. Галоўнае для мастака - нават не самаацэнка, але ацэнка тых, для каго ён гэта робіць.
Стан культуры вызначаецца ўзроўнем сярэдняй клясы. У Беларусі (я пра Расею ўжо не кажу - там горш) ён ніжэйшы за заходні ўзровень. Таму каб "настрыгчы капусты", трэба працаваць на гэтым сярэднім узроўні. А нас такі варыянт не задавальняе.

**ВЫ ВЫПУСЬЦІЛІ ДЗЕВЯЦЬ АЛЬБОМАУ, ULIS МЕУ ШАЛЁНУЮ ПАПУЛЯРНАСЬЦЬ. АТРЫМЛІВАЕЦЦА, ВАШАЯ "СЯРЭДНЯЯ КЛЯСА" СПАЧАТКУ ДАРАСЛА, А ПОТЫМ ЗДРАБНЕЛА?**
Ізноў жа, праблема бел-року. Амаль дзесяць год - з 84-га па 93-ці прыблізна - ён быў нашмат вышэйшы за маскоўскі. Мы гралі на такім жа ўзроўні, як і маскоўскія каманды, але ішлі на дзесяць год наперадзе іх: нашая музыка была больш сучасная, а яны сядзелі на сваіх старых ідэалах. Мы гралі эўрапейскую музыку, таму папулярнасьць была і ў Нямеччыне, і ў Англіі, там нават у газэтах пісалі: так, як ULIS, ніхто ня грае. Бо мы ні на каго не арыентаваліся. І публіка ў часы той "адлігі", калі камсамол дазволіў граць рок, таксама была на ўзроўні Эўропы. Альтэрнатыўную музыку слухалі, і на канцэрты быў проста лом. Мы сьвяціліся па тэлеку, па радыё - што таксама важна. Зараз па тэлеку паказваюць зэмфіраў, якія граюць прыблізна тое, што мы ў 80-х. Яны рэальна адстаюць. А мы - ULIS, прынамсі - рухаемся, мы граем сучасную музыку. Але публіка ўжо ад яе адарваная, яна слухае зэмфіраў і... блін, нічога больш у галаву не прыходзіць.

**ПА ЛЁГІЦЫ, У ВАС ПАВІННА БЫЦЬ ЗАРАЗ ПАПУЛЯРНАСЬЦЬ У ЭУРОПЕ.**
Яна магла б быць, калі б хто-небудзь рабіў нам прамоўшн там. Не кажу, што яна павінна быць абавязкова. Але ў свой час за намі бегалі нямецкія музыкі, пыталіся, як мы гэта робім... Іх праблема - яны вучацца па відэашколах. Асабліва немцы. І ўсе гэтыя школы аднолькавыя. Яны могуць быць вельмі клясным гітарыстамі, але яны падобныя адзін да аднаго. Мы ж усе былі самавучкамі, даходзілі да ўсяго самі і гралі па-свойму. Таму немцы нам зайздросьцілі.
У Англіі - зусім іншая рэч. У Лёндане я зразумеў, што мы ўсё робім правільна. Там кажуць: усё тое, што па MTV паказваюць - гэта ня рок. Гэта папса. Сапраўдная рок-музыка - у пабах, барах і клюбах. У Лёндане гэтых клюбаў на кожным рагу па дзесяць штук. І ўяўляеш, колькі там камандаў, якія адна з адной пэрыядычна перасякаюцца, граюць сэйшны, канцэрты, публіка іх бачыць пастаянна. З гэтага

вырастае іх рок-культура. З асабістых кантактаў і пастаянных кантактаў з публікай. Гэта вельмі важна для разьвіцьця сапраўднай рок-культуры. Гэта тое, чаго ў нас няма.

**ТАДЫ АДКУЛЬ ВЫРАСЬЛІ НОГІ У ТУТЭЙШАЙ РОК-МУЗЫКІ?**

Ногі расьлі проста зь BEATLES і LED ZEPPELIN. 70-я гады былі росквітам культуры "здыму". Скажам, у PTI, дзе я вучыўся, былі асы здыму, яны здымалі заходнія гурты і рабілі цэлыя праграмы. А вось мы ўжо ня проста здымалі - мы інтэрпрэтавалі музыку, гралі па-свойму. Здымалі словы, здымалі асноўныя рыфы і барабаны, але атрымлівалася ў нас усё па-свойму.

**ДОБРА, ВА ULIS ЁСЬЦЬ СВОЙ ТВАР. А ЯК З АСТАТНІМІ? ПАСТАЯННА НЕ ПАКІДАЕ ПАЧУЦЬЦЁ НЕЯКАЙ ДРУГАСНАСЬЦІ НАШАГА РОКУ.**

Так, у нас ёсьць гэты... закос. Я наагул зьдзіўляюся музыкам, якія вераць у тое, што варта ім зайграць як RAMMSTEIN - і яны адразу стануць другімі RAMMSTEIN. Так ня будзе.

Вось табе яшчэ адно адрозьненьне нашай публікі ад заходняй. У нас людзі вядуцца, калі ім кажуць, што каманда грае як RAMMSTEIN. А вось заходнюю публіку не цікавяць дублёры - ёй трэба тое, чаго яна яшчэ ня чула. Таму ўсе MTVшныя прадусары зьяўляюцца, так бы мовіць, зборнікамі грамадзкіх ідэяў. Яны ходзяць па клюбах-пабах, а сапраўдныя рок-музыкі, якія там сядзяць, - яны і ёсьць генэратарамі ідэяў. А гэтыя, з MTV, толькі даносяць ідэі да масаў. Цяпер зірні, колькі на ўсё трэба часу. Скажам, ты нешта ўбачыў, потым штосьці сваё дадумаў, адрэпэтаваў, запісаў дэма. Перапісалі, нешта папраўілі. Праз год-два-тры запісваецца праграма, прамоўшн - яшчэ год... Праз пяць гадоў яны папулярныя, праз шэсьць на MTV. І вось наш маладзён глядзіць гэтае MTV праз сем год і вырашае граць так сама. Пачынае рэпэтаваць, з горам напалам кляпае праграму... і ў выніку на добрых 10 год ён адстае ад арыгіналу. У нас усё перавернута з ног на галаву. Тут музыкі арыентуюцца на тое, што ім паказваюць па тэлевізіі. А калі яны яшчэ дзяруць з маскоўскіх камандаў, дык тыя наагул на дваццаць год адстаюць. Гэта зусім ня значыць, што калі ты будзеш сядзець, думаць і нікога ня слухаць, дык вынайдзеш ровар. Але ты, прынамсі, будзеш спрабаваць - а раптам ты гэта зробіш?

**ШТО ВЫ УКЛАДАЕЦЕ У СВАЮ МУЗЫКУ ПАЧАТКОВА – АПТЫМІЗМ ЦІ ПЭСЫМІЗМ?**

Я думаў пра гэта, але ўсё-ткі зь іншага гледзішча. Па-мойму, тэкст і музыка павінны мець некалькі пластоў. Калі ты разумееш пачутае ці там прачытанае адназначна, і ўсе ўспрымаюць аднолькава, то гэта дрэнна. Улісаўская музыка заўсёды была неадназначнай. Кожны чалавек мусіць знаходзіць у ёй тое, што яму бліжэй. Многія людзі так да канца і не разумеюць тэксты, напісаныя ва ULIS'е. Гэта добра.

**СЛАВА КОРАНЬ І ІНШЫЯ ЛЮДЗІ АД МУЗЫКІ. ЗЬ НЕКАТОРЫМІ У ВАС ДАВОЛІ ДЗІУНЫЯ АДНОСІНЫ: НА ПРЭЗЭНТАЦЫІ ALTERNATYVA_BY ПАСЬЛЯ ВАШАГА ВЫСТУПУ ПІТ ПАУЛАУ РАПТАМ ЗАЯУЛЯЕ СА СЦЭНЫ, ШТО СЛАВА НАРЭШЦЕ ЗНАЙШОУ СВОЙ ГУК. ДАВОЛІ ІРАНІЧНА ПРАГУЧАЛА.**

Гэта праблема Піта Паўлава і тых людзей, якія так сябе паводзяць. Вось Дзяніс Шаравар у "Свободных новостях" неяк напісаў, што ён, маўляў, ванітаваў ад таго, як я сьпяваю. Фактычна ён мяне абразіў. Такія людзі спрабуюць вырашыць свае ўласныя праблемы за чужы кошт. Чаму Піт ня скажа пра нейкага невядомага музыку, што той "нарэшце знайшоў свой гук"? Чаму Шаравар не наехаў на нейкага невядомага сьпевака? Лепей узьняць свой аўтарытэт, абразіўшы чалавека, якога ўсе ведаюць. Я стараюся ў такіх справах спуску не даваць. Я пасьля схадзіў у рэдакцыю, хацеў убачыць таго, хто гэта напісаў. Проста паглядзець яму ў вочы.

**ПАГЛЯДЗЕЛІ?**

Не. Ён ня выйшаў... Затое болей пра мяне нічога не пісаў. Такіх людзей шмат. Беларусы пакуль не ператварыліся ў сапраўдную нацыю - так і застаюцца пэрыфэрыяй Расеі. Гэтая местачковасьць і не дае табе сказаць: так, я ганаруся нашай камандай, нашым тэнісістам, рок- ці поп-гуртом. Абавязкова трэба некага аблажаць і тым самым сказаць: вось які я! Вунь слон пайшоў, а я на яго пабрахаў.

**А ШТО НАКОНТ МАЛАДЫХ ДЫ НАХАБНЫХ? ПАСЬЛЯ НЕЯКАГА "БАСОВІШЧА" ІГАР ВАРАШКЕВІЧ НАПІСАУ, ШТО ЯМУ БЫЛО НЕЦІКАВА СЛУХАЦЬ МАЛАДЫЯ КАМАНДЫ: УСЕ ГРАЮЦЬ АДНО І ТОЕ Ж.**

Я памятаю гэты артыкул. Ён скардзіўся, што рытм-энд-блюз ужо ня так добра прымаюць, казаў, што ніколі ня будзе граць хард. А ён проста ня зможа яго граць! Я зьдзіўляюся іншаму: маладыя людзі, якія нарадзіліся зусім не ў 40-х ці 50-х і не пачыналі рытм-энд-блюз, зьбіраюцца зараз і граюць гэтую састарэлую музыку. Моладзь павінна рабіць нешта авангарднае, спрабаваць нешта зьмяніць. А "Басовішча" - наагул асобная размова. Беласточчына - яшчэ больш кандовая мясцовасьць, чым Беларусь. І людзі, якія робяць "Басовішча", знаходзяцца пад уплывам польскай рок-музыкі і спрабуюць усё паварочваць у гэты бок. Маўляў, беларускія гурты горшыя за польскія. Раней гэта праходзіла - да таго моманту, пакуль мы не паставілі на месца апэратараў, якія фактычна рабілі сабатаж беларускіх камандаў. Гадоў шэсьць таму прыяжджалі польскія зоркі, выходзілі напрыканцы, пачыналі граць на тым самым апараце - і зьяўлялася магутнасьць, гук быў такі, што ва ўсіх сківіцы адвальваліся. І ўсе рабілі выснову, што беларускія гурты, якія выступалі перад гэтым - поўны адстой. Як толькі мы ўзяліся за гук, дык польскаія гурты й пажухлі. Яны сталі ў адзін шэраг зь беларускімі, і нікуды не падзенуцца. Проста ў іх больш разьвітая культура гуку, яны ведаюць, што зь ім рабіць. Гэтага ў беларускіх камандаў няма. Я не назаву ніводнай беларускай каманды, якая працавала б з гукам на сцэне, якой хацелася б дабіцца свайго, ні да каго не падобнага гучаньня. Усім пофігу!

**ТАКОЕ УРАЖАНЬНЕ, ШТО СУЧАСНЫ РОК ЗАНАДТА КАНАНІЗАВАНЫ, КАБ ЗРАБІЦЬ У ІМ НЕШТА НОВАЕ. ТАК ЦІ ІНАКШ ГЭТА ГІТАРНАЯ МУЗЫКА, З ПАДОБНЫМІ ПРЫЁМАМІ СЬПЕВУ, З АДНОЛЬКАВЫМ ПА ДУХУ МЭСЭДЖАМ...**

Насамрэч у року канонаў нашмат меней, чым нават у сымфанічнай ці поп-музыцы. Рок - гэта калі ты сваё сьветаадчуваньне выражаеш у гуках, якія выдаеш на публіку.

Няважна якім спосабам, няважна на якім інструмэнце. Я лічу,

тая ж "Троіца" - гэта рок-музыка. У іх іншыя інструмэнты, але гэта рок. А ты кажаш, каноны. Дыяпазон агромністы. Людзі самі сябе заганяюць у рамкі. Той самы блюз ад "Крамы" - абавязкова гітара, барабаны, клявішы, губны гармонік... і гітара павінна граць менавіта так, а не інакш! А чаму? Альбо, скажам, людзі, якія граюць усялякія гітарныя мулькі, арпэджыё. Лічыцца, што вось гэта і ёсьць гітарысты. А я вось думаю, што гітара павінна гучаць так, як яна не павінна гучаць! Я ўспрымаю гітару ня як інструмэнт, а як спосаб здабываньня гуку і спосаб данясеньня думкі. Інструмэнт павінен перадаваць твае адчуваньні, а не паказваць, як ты добра на ім граеш. Вось гэта і будзе рок-музыка. Тое, што я называю independents. Астатняе - практыкаваньні, штуды.



**САМЫ АПТЫМІСТЫЧНЫ І САМЫ ПЭСЫМІСТЫЧНЫ ВАРЫЯНТЫ РАЗЬВІЦЬЦЯ ПАДЗЕЯЎ ДЛЯ ULIS'У?**

Пэсымістычны... Заканчваю альбом "Люстра", над якім зараз працую. Не знаходжу грошай, каб выпусьціць кампакт. Гады праз тры ён урэшце выпускаецца і аказваецца дзіка састарэлым. І не хапае сілаў зрабіць нешта новае. Аптымістычны - я ўдала заканчваю гэтую праграму, выпускаю кампакт, які добра раскупаецца і спрыяе таму, што людзі даведваюцца: гурт ULIS яшчэ існуе.



У ЛЮДЗЕЙ МУСІЦЬ БЫЦЬ ВЫБАР. СКАЖАМ, ТЫ НЕШТА ПРЫДУМАУ САМ. І ТВАЯ МУЗЫКА ПАКАЦІЛА, ЦЯБЕ УЗЯЛІ У ШОУ-БІЗНЭС. ТЫ ЗРАБІУСЯ ПАПУЛЯРНЫМ, ЗАРАБІУ МОРА ГРОШАЙ, А ПАСЬЛЯ СТАУ БЛЯКНУЦЬ, ЛЕЗЬЦІ У АГУЛЬНУЮ ДЗІРКУ, КАБ ЗАРАБІЦЬ ЯШЧЭ. ГЭТА АДЗІН ШЛЯХ. ІНШЫ - ТЫ ЗРАБІУ СЯБЕ, І ХАЙ ЦЯПЕР ТОЙ ШОУ-БІЗНЭС ВАШ ІДЗЕ У ДУПУ. ШМАТ ТАКІХ МУЗЫКАУ. ТОЙ ЖА БРАЯН ІНА, ЯКІ БЫУ ПРАДУСАРАМ U2 І ЯКІ ФАКТЫЧНА ЗРАБІУ ІХ U2. ЦІ ФРЭНК ЗАПА. ТАКІХ УСЕ ПАВАЖАЮЦЬ, АЛЕ НІХТО НЕ УЗНАГАРОДЖВАЕ СТАТУЙКАМІ. ЦІ МАККАРТНІ, ХАРЫСАН... ХОЦЬ ЯНЫ І РАБІЛІ ПОП-МУЗЫКУ, АЛЕ ЗАЙМАЛІСЯ ТЫМ, ЧЫМ ХАЦЕЛІ, І НІ ПАД ЯКІ ШОУ-БІЗНЭС НЕ ПАДПАДАЛІ - ЯНЫ РАБІЛІ СВОЙ БІЗНЭС. У НАС НЯМА ТАКОЙ МАГЧЫМАСЬЦІ. НІ ДЛЯ РАЗУМНЫХ, НІ ДЛЯ МОЦНЫХ, НІ ДЛЯ СЛАБЫХ. АБ УСІХ ВЫЦІРАЮЦЬ НОГІ.



# БЕЛАРУСКІЯ ПАЛЬЦЫ





тэкст: Андрэй Гнет

**НОТЫ ПРЫДУМАЛІ ДЛЯ БРЫТНІ СЬПІРС! МЫ ПАВАЖАЕМ ІНШУЮ МУЗЫКУ. НАМ АБАВЯЗКОВА ПАДАВАЙ УСЯЛЯКУЮ АЛЬТЭРНАТЫВУ. У CD'ШНІКУ N.R.M., ПАД ПАДУШКАЙ SHAKIRA - ВОСЬ ЯНЫ, СУРОВЫЯ РЭАЛІІ ТЫХ, ХТО СПАЧУВАЕ БЕЛАРУСКАМУ ШОЎ-БІЗУ.**

Стогны на тэму адсутнасьці як "шоў", так і "бізнэсу" такія ж сьмешныя, як анэкдоты пра габрэяў для тых, хто іх не разумее. То бок ня сьмешныя яны зусім. Дасталі ўжо ўсіх. А між тым нейкі дзіўны гонар ахоплівае лепшых прадстаўнікоў музыкі.by за свой жа ўласны прадукт. Гонар за яго наяўнасьць. Маўляў, "на бязрыб'і..."
Але не, спадары патрыёты сваёй справы, мы ж ведаем, што лепей за тухлую рыбу - заморская каўбаса. Са страўнікам праблемаў меней!
Фэномэн распальцовак знаёмы ўжо даўно. Тут альбо комплексы, альбо стараннае "замазваньне" ўласнай нягегласьці. Адбываецца сублімацыя нязробленага ў бязьмежных пантах. Для першапачатковага застрашэньня - вельмі карысны ход. Скарыстаюся тэрмінам "беларускі РнР", бо нічога іншага для гэтага выкідка так і не прыдумаў. Што мы маем у аснове гэтай зьявы? Геаграфічная мапа Эўропы пэрыяду фэўдальнай раздробленасьці - кожны сам сабе рок-кароль і непрызнаны геній. Паважаць яго абавязаныя ўжо таму, што гэты "кароль", напэўна, шмат чаго зрабіў бы для падняцьця рэйтынгу роднае дзяржавы, калі б не абставіны... І ў рэдкія моманты паміж паглынаньнем сьмяротнай дозы алькаголю&анашы і нездаровым сном на кватэры ў старога знаёмага стругае каранаваны, што той папа Карла (з трухлявага палена - Бураціну), вечна новыя рэлізы, сынглы, альбомы і ўсякую канцэртную муць для альтэрнатыўных пляцовак кшталту ДК "БелОГ".
Нараджэньне беларускага рок-н-ролу не зьвязанае з працэсамі сусьветнай музычнай прасторы ў прынцыпе. Беларускі рок-н-рол такі ж самабытны, як альховыя граблі. І калі ў тройчы клятай Маскве рокеры памылі валасы, папралі майкі і перамясьціліся з сутарэньняў на пляцоўку ў Раменскім, нашыя суайчыньнікі з прычыны ідэйнай чысьціні так і засталіся ў пракураных пяціпавярховіках - чакаць музу, а заадно і грашовых прадусараў.
Гэта толькі ў нас можна здымаць відэакліпы за 2 пляшкі "Крышталь Люкс", а потым ладзіць эксклюзіўныя прэм'еры для сваякоў і сяброў. І няхай Кульлінковіч не выпендрываецца са сваім "Васем" - зьняць відэа за 5 штук $ зможа кожны, а вось так, "па дружбе" - толькі Толік Вечар. А паколькі "дружба" - зьява ўзвышаная і не пакідае месца фінансам, то кліпы гэтыя з прычыны сваёй спэцыфічнай авангарднасьці так і застаюцца зразумелымі толькі для здымачнай групы.
Зрэшты, гарантую - нават за 5 штук атрымалася б тое самае, што і бязь іх, хіба што гулялі б на радасьцях крыху болей, а той-сёй нават дублёнку прыкупіў бы.
Безумоўна, таленты ў нас ёсьць. Напрыклад, талент ператвараць у гаўно выдатныя ідэі. Да таго ж, чым ідэя лепей, тым мацней пахне пасьля магічных ператварэньняў. Але, як кажуць, "дым отечества нам сладок и приятен...". Недарма музыкі.by "очэнь дажэ" любяць выступаць на адной пляцоўцы з музыкамі.ru. У нашай асаблівай рэальнасьці мяжа ўражлівасьці сьціраецца, што дае ўсьведамленьне таго, быццам яны - такія ж людзі, як і мы, а мы - такія ж зоркі, як яны.
Альбо, зноў жа, беларускі Grammy. Рок-каранацыя як люстэрка беларускага рок-н-ролу. Дзе каранацыя? Ды тамсама, дзе і рок-н-рол. Бо калі ўлічваць усе дасягненьні ў галіне шоў-бізу, пераможцамі стануць "Краскі" як безумоўны прарыў, а "Крама" сарве куш у намінацыі "традыцыі і сучаснасьць" за стабільна добры гук і нязьменны рэпэртуар.
Будзем шукаць вінаватых. Рэкамэндую: у сабе! Да люстэрка часьцей падыходзіць, машынку губазакатальную набыць па аб'яве... Ці мала спосабаў? Бо ў свае ж распальцоўкі самі пачынаем верыць. Губляецца гэтае аб'ектыўнае ўспрыняцьце. Не, татальна ганьбіць таксама ня варта, але перад тым як выносіць на ўсеагульны агляд тое, што было створана "for home or office use only", трэба сур'ёзна падумаць. Бо выміраюць прафэсіяналы, а некаторым і нарадзіцца не даюць. Гэта ж нармальна, што ў суседа карова маладая здохла, абы не мая, няхай і старая. БаранІць альбо барАніць - вось у чым пытаньне! Разьбярэмся з націскам і зробім пальчыкі па-чалавечы - глядзіш, і "Воплі Відаплясава", і "Brainstorm" у нас свае зьявяцца. Эўрабачаньне ў Менску, вядома ж, мае такія самыя шанцы адбыцца, як алімпіяда, але пасылаць на конкурсы хлопчыкаў і дзяўчынак, адрозных ад Ірыны Дарафеевай, нам ніхто не замінае. Былі б яны...
Часам падаецца, што палова чалавецтва - выхадцы з-пад Магілёву. Кажуць, нават Джордж Буш меў у сваёй радаслоўнай палескія карані. Толькі вось незадача - у Амэрыцы ён чамусьці апынуўся. А мы тут. Адчуваем нечалавечы гонар з нагоды гістарычнага казусу.

# Ахвары аборту

## ненароджаныя беларускім рок-н-ролам



**Болю амаль не было – хутчэй адчуваньне ўнутранай пустаты і холаду, такога ўсеправнікальнага, да пары з роту і сіне-фіялетавых вуснаў (абяскроўліваньне хіба). Я маю на ўвазе, фізіялёгія амаль не зьмянілася, толькі ўнутры не хапае жывога, якое варушыцца і супрацiўляецца зьнешняму нэгатыву. Па вялікім рахунку, менавіта ён стаў прычынай таго, што амаль усе спробы даць жыццё заканчваліся адным і тым жа – спаронам (абортам па-нашаму). Яго ахвяраў рэдка хто ўзгадвае – лепей казаць пра існуючыя праблемы і магчымыя пэрспэктывы, чым аплакваць ненароджаных, якія пукамі вісяць на сумленьні.**
**Я не акушэр і не патолягаанатам, каб высьвятляць прычыны заўчасных сьмерцяў усіх ненароджаных – мае прэтэнзіі бліжэй да доктара-назіральніка: няважна чаму і як, цікавыя самі факты, факты пра цікавых.**

тэкст: Андрэас Копыс

### EXIST

Юра Хобіт, а пасьля і сам EXIST, зьявіліся невыпадкова. У 1997 годзе, калі стала зразумела, што на аднаго мэлямана прыпадае занадта шмат рок-дыназаўраў, якія перасталі цікавіць нават палеантолягаў - занадта аднастайны вывадак, - усе былі ў прадчуваньні: ужо блізка! Прадчуваньне пасьля аказалася самай простай надзеяй, надзеяй без пэрспэктываў. Але неспакойным было не да таго - хацелася сьвежых, не пабітых бясконцымі ўліваньнямі і "цяжкай жызьнёй" твараў (пажадана, Faces), здольных стаць новымі героямі.
Хобіт цалкам адпавядаў патрабаваньням: харызматычны, езусападобны малады чалавек з сумнымі вачыма, у вэльвэце, такі элегантны і сарамлівы брытанец, які любіць Сартра, мае поўную дыскаграфію Sonic Youth і на дзень народзінаў п'е зь сябрамі абсэнт.
Першая дэмка EXIST і завязаная пасьля яе праслухоўваньня доўгая размова канчаткова расставілі акцэнты ў спадзевах - Хобіт сапраўды ведае, што трэба рабіць: выкінь сярэдні палец на правай руцэ і ўяві сабе, што граеш у якім клюбе ў Лёндане. Крыва, па-беларуску тупа, але ў Лёндане! Ня трэба папсовых мараў, гарадоў - мроі павінны адпавядаць абавязкам, узятым на сябе. Будзь сабой, будзь непадобным. Апошняе слова як "амэн" напрыканцы малітвы. Але непадобны не па-таннаму, а па-сапраўднаму.
Саўнд "Памыліўся" - экзістаўскага блёкбастэру - быў страшнейшы за атамную вайну, але ён чапляў: дзікія гітары, нетутэйшыя гукі. Sonic Youth, Ino, Portishead і куча іншых у адным месцы. Усе сьціхалі, калі чулі EXIST у першы раз, - а Юрку і Эндру было па барабану: на сцэне "хлопцы з Курасоўшчыны" ператвараліся ў раньніх Radiohead.
Было б дзіўна, калі б EXIST і сам Юрка раскруціліся, бо прэтэнзіяў да іх было шмат - "заціхі вакал", "неабгрунтаваная гітарная какафонія", "нешта няўцямнае" і іншая нацыянальная лухта. Пасляць усіх куды падалей і займацца сваёй любімай справай - самае простае. Паспрабаваць атрымліваць хоць нейкія матэрыяльныя радасьці ад музыкі - амаль немагчымае. Так, яны былі крутымі - гэта 100%. Сапраўды, такіх ні да, ні пасьля іх не было - 200%. І абсалютна зразумела, такія нікому не былі патрэбныя - 300%.
Сказаць, што пра EXIST ведалі - не скажу: пра іх "нешта чулі" (хутчэй за ўсё, блыталі з кім-небудзь, ці слова падавалася надта знаёмым - у 1997 экзыстэнцыялізм толькі-толькі даходзіў да "прасунутых"), яны дзе-нідзе выступалі, штосьці рабілі, але асфіксія была не за гарамі. У 2001 EXIST апошні раз зьявіўся на кампіляцыі "Альтэрнатыва.by" - і ўсё. Хобіт "скапціў" у Вялікую Брытанію, дзе зараз і сядзіць.
Няважна, што большасьць дагэтуль ня можа правільна прачытаць і вымавіць - EXIST, пофігу, што на адзіным сольніку ў "Луче" (быў такі клюбец у нейкім ДК на Нямізе) набралося два з паловай "удзячныя" слухачы. Некалі яны густоўна апусьцілі ўсіх кандовых "беларускіх рокераў", і гэта было запамінальнае відовішча!

### Распилил и выбросил

Яны былі сапраўднымі адмарозкамі, такімі, якіх зараз днём з агнём. Пачынаючы ад назвы: некалі ці Сувораўцаў, ці Лібэрзон прачыталі ў газэце "Труд" артыкул "Распилил и выбросил" - як муж забіў, а пасьля расьпілаваў жонку. Разрозьненьне - ня цымус: самае забаўнае, што на наступны дзень дзеці гуляліся з парэшткамі ў пясочніцы - на нейкім этапе замятаньня сьлядоў бандзюга даў промах... І заканчваючы месцам сустрэчы двух геніяў - вэтлякарня, куды ў хрэстаматыйным трыко з адвіслымі каленямі Сувораўцаў і Лібэрзон прыцягнулі сваіх чацьвераногіх сяброў. З таго моманту ўсё і пакацілася-палілося.
Ніколі ня бачыў і ня чуў жыўцом гэты калектыў, але колькі сябе памятаю, заўжды пра іх ведаў. І гэта, магчыма, - самы яскравы паказьнік таго, што РИВ ня проста прэтэндавалі на культавасьць.
З 1994 пачалі фрагмэнтарна даходзіць чуткі, што ёсьць такі Сувораўцаў - круты, вельмі наварочаны музыка, а па сумяшчальніцтве наркаман. У слабой ад аксіялягічных узрушэньняў юнацкай псыхіцы ўяўляўся сутулы 25-годак з чырвонымі вачыма і нездаровым колерам скуры, які ходзіць і нешта пад нос мармыча - як высьвятляецца пазьней, чарговы гіт - бязглузды, незразумелы, але катастрафічна сьцёбны.
Так і ня здолеўшы ў свой час трапіць на РИВ у "Аддис-Аббебу" і "Три поросенка" (з прычыны ўласнага малалецтва і малаальтэрнатыўнасьці), у 1998-м нарэшце ўбачыў і набыў "Мульти-пульти, джыгі-джыгі" - адзіны выдадзены альбом РИВ. Як неаднойчы заўважалі клясыкі, лепшае завучваньне тэорыі адбываецца на практыцы, але што вар'яцтва можа быць настолькі геніяльным і сьмешным - у трунах па камандзе пераварочваліся Кабэйн, Хендрыкс і Доггі Дог з Technotronics.
Калі ў 2000-м Саша Сувораўцаў на колькі тыдняў вярнуўся са свайго забітага "Шыкего" (USA) у забыты Менск, амаль увесь свой візыт прабавіў на сцэнах нешматлікіх клюбаў, дзе выступаў з часова рэанімаванымі "Распилил и выбросил". А пасьля зноў зьехаў у Амэрыку, дзе, па чутках, вучыцца і працуе таксістам. ЗША далі яму магчымасьць наведаць розныя капкраіны і ўзбагаціць слоўнік беларускага эспэранта, вывучэньне і папулярызацыя якога пачаліся ў недалёкім Менску ў 1992 годзе.

### Aeroplan-Kit

Дагэтуль незразумела, хто за кім - ці Aeroplan за Кіт, ці наадварот (вядома толькі, што гэта фактычна адзін гурт).
Прасачыць гэта па альбомах таксама немагчыма - ніякіх храналягічных зьвестак на іх няма, да таго ж нехта са знаёмых даў паслухаць CDs амаль адначасова. Ведаў той нехта, каму даваць: і Five Biospheres, і Purple trees назаўжды "згубіліся" ў лябірынтах бясконцых "рамонтаў" і "перапісваюць сябры" - (насамрэч, аддаваць шкада). Http://aeroplan.virtu-alave.net/ таксама ня даў ніякіх надзеяў - адно што ў гасьцявой прывітаньні нейкаму Пілёту ад бясконцых менскіх, лёнданскіх, амэрыканскіх сяброў і сябровак - кароткія, часам рытарычныя, якія ні да чаго не абавязваюць. Бэльгійскіх мэйлаў нібыта няма, хаця якраз гэта і дзіўна: кажуць, самы лепшы беларускі брыт-поп пастаянна мешкае менавіта там. Без сарказму: Aeroplan-Кіт сапраўды як удар па руках сьвядомым рокафобам. Вельмі беларускі па настроях - флегматычныя, нясьпешныя, сумна-пазытыўныя і простыя мэлёдыі, быццам скалькаваныя з той гасьцявой (паводле азначэньняў) тэксты. І тупое, як зубны боль: чаму б ня быць больш простымі, каб пачулі, менш прэтэнцыёзнымі, каб заўважылі? Рацыя: толькі Not here.

# Шаснаццаць




падрыхтавалі
Сяргей Будкін, Павал Сьвярдлоў, Алекс Стрэл







### Песьняры
### Ты мне вясною прысьнілася [1971]

Першы альбом самага ўдалага айчыннага музычнага праекту. Пакуль яшчэ не пачаліся тыя шматлікія канцэрты і гастролі па ўсім сьвеце, пакуль "песьняры" не працуюць на масавага слухача, але чаргу за квіткамі на канцэрт можна параўнаць адно што з чаргой па іх жа кружэлкі. Пакуль музыкі яшчэ не захрасьлі ў распусьце і не пачалі хварэць на "зорак", а Джон Ленан яшчэ не сказаў легендарнае: "Песьняры"? Гэта лепшае, што я чуў!"



Гэта толькі першая кружэлка-гігант "вокально-инструментального ансамбля под руководством Владимира Мулявина", якую потым для зручнасьці будуць называць па назвах запісаных там песень: "У полі вярба", "Касіў Ясь канюшыну", "Александрына", "Ты мне вясною прысьнілася" і г.д.

Дзякуючы расейцу Мулявіну беларускую мову і фальклёр пачулі і ў сонечных савецкіх рэспубліках, і ў краінах Усходняй Эўропы, і ў ЗША, і ў Лацінскай Амэрыцы, і ў...

### Бонда
### Кожны з нас [Месца пад сонцам] [1986]

АДЗІН ЗЬ ПЕРШЫХ БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ РОК-АЛЬБОМАЎ - НАШ АДКАЗ СТЫНГУ З "THE POLICE" І ПОЛЬСКІМ ПАНАМ З "LADY PANK". СТВОРАНЫ ЦІ НЯ Ў ПІКУ РОЗНЫМ ПАПУЛЯРНЫМ НА ТОЙ ЧАС СЯРОД САВЕЦКІХ БЕЛАРУСАЎ "АРАБЕСКАМ" І "АТАВАНАМ", АЛЬБОМ ПІСАЎСЯ ПАДЧАС АНТЫАЛЬКАГОЛЬНАЙ КАМПАНІІ Ў САМАРОБНАЙ СТУДЫІ НА ЧАЦЬВЕРТЫМ ПАВЕРСЕ ІНСТЫТУТУ КУЛЬТУРЫ.



КАМСАМОЛЬСКІЯ АКТЫВІСТЫ ЎБАЧЫЛІ Ў НАЗВЕ "АМАТАРСКАГА ВІА" КРАМОЛУ - "БОНДА" Ў ІХ АСАЦЫЯВАЛАСЯ З "БАНДАЙ". МУЗЫКАМ ДАВЯЛОСЯ ЗЬВЯРНУЦЦА ДА ПРАФЭСАРА МАЛЬДЗІСА, КАБ ТОЙ ПАТЛУМАЧЫЎ "ІДЭОЛЯГАМ", ШТО "БОНДА" ЗНАЧЫЦЬ УСЯГО ТОЛЬКІ "ЧАСТКА АД ЦЭЛАГА" (ЛУСТА, КАВАЛАК, ПАДЗЕЛ І Г.Д.). МЕНАВІТА НА ГЭТЫМ АЛЬБОМЕ ЗАПІСАНЫЯ ЎСІМ ВЯДОМЫЯ ПЕСЬНІ "СТЭФКА" І "СЛУЦКАЯ БРАМА". ДА СЁНЬНЯ ІХ ВЫКОНВАЕ "КРАМА"- СПАДКАЕМЦА "БОНДАЎСКІХ" ТРАДЫЦЫЯЎ.

# Шаснаццаць

### Мроя. Дваццаць восьмая зорка [1989]




Выйшаў гэты альбом ажно на самай буйной савецкай фірме гуказапісу "Мэлёдыя", калі гурт ужо стаўся культавым. Менавіта "28 зорку" можна назваць самым "сьпелым" запісам "Мроі". Музыкі стварылі тут нейкую невытлумачальную і запатрабаваную "перабудовачным" слухачом атмасфэру: цяжкі хардавы гук, дэпрэсіўнае аздабленьне, надрыўны вакал і абавязковая сацыяльна-палітычная заклапочанасьць ("Зямля", "Мама-мафія"). Як апошні цьвік - прэтэнзія на "нятленку" - "Я рок-музыкант". Ня ведаў Вольскі, калі сьпяваў пра нянавісьць да песень "рэстараннага варыянту", што ўжо праз 13 год на фоне азэзлых ад крамбамбулі твараў калегаў па цэху будзе прэзэнтаваць альбом застольных песень у нятанных менскіх рэстарацыях.

### УЛІС.
### Чужаніца [1989]




Запісаны ў Ольштыне (Польшча), альбом цалкам апраўдаў сыход Кораня і Краўчанкі з "Бонды" і стварэньне імі самастойнай творчай адзінкі. Старадаўні грэцкі герой нібы перадаў гурту свой вандроўніцкі лёс: за 14-гадовую гісторыю гурт так і застаўся "чужаніцай" на радзіме.

Альбом выбухнуў і з галавой накрыў усё, што было да яго. Глёбус некалі зазначыў, што "Чужаніца" - Першы Беларускі Альбом, праз які была пяройдзеная мяжа, што падзяляла зборкі песень і ўласна альбом. Яго стварылі Прафэсіяналы: "Іх рок сапраўды нічога ня варты для вушэй, якія ня чуюць гармоніі" (так пісала адна зь нямецкіх газэтаў). Пра айчыннае прызнаньне тады было казаць зарана - такое да масаў, бедных на ёд, даходзіць толькі зь цягам часу.

Калі "імпэрыя зьнікла, як дым", Аксёнцаў зьехаў у Канаду, Патрэй "сарваўся" і правёў колькі часу ў вар'ятні і, вядома, з музыкай завязаў. "УЛІС" паступова сышоў у цень, пакінуўшы пасьля сябе тэстамэнт, які ня ўсе адважваюцца прачытаць - праўда будзе катастрафічнай.

### Мясцовы Час. Наша ўскраіна [1991]



У XIX СТ. У ФРАНЦЫІ ЖЫЎ ПАЭТ ЛАТРЭАМОН, ЯКІ, ЯК ВЫСЬВЕТЛІЛАСЯ ПАЗЬНЕЙ, ЗА 24 ГАДЫ ЖЫЦЬЦЯ НАПІСАЎ УСЁ, ШТО ПАСЬЛЯ ЯГО СЬМЕРЦІ ПАЭТЫ ПА ЎСІМ СЬВЕЦЕ ПЕРАПЯВАЛІ ЦЯГАМ ДВУХ СТАГОДЗЬДЗЯЎ. НАВАПОЛАЦКІ ГУРТ "МЯСЦОВЫ ЧАС" АЛЬБОМАМ "НАША ЎСКРАІНА" АПЯРЭДЗІЎ "УСЯГО" ТОЛЬКІ БЕЛАРУСКІ РОК І "ЎСЯГО" НА 10 ГАДОЎ. ХІБА ТАМУ, ШТО ТЭКСТЫ ПІСАЎ НЕ ЛАТРЭАМОН, А ПОЛАЦКІ ПАЭТ АЛЕСЬ АРКУШ. ПАКАЗАЛЬНА, ШТО МЕНАВІТА ПАСЬЛЯ МЧ ПАЧАЛІ КАЗАЦЬ ПРА РЭГІЯНАЛЬНЫЯ (ПЕРШ ЗА ЎСЁ НАВАПОЛАЦКУЮ) SCHOOLS, ЯКІЯ ПА ВЯЛІКІМ РАХУНКУ НІЧОГА НАДЗВЫЧАЙНАГА, АПРАЧА АНАТУЕМЫХ, НЕ ДАЛІ. ЯНЫ Ж - ГЕРОІ: АЛЕСЬ КУЗЬМІН, ЯКІ ЎПЭЎНЕНА ВАЛОДАЕ ДЫСКАНТАМ, ЯГО МУЗЫКІ, ШТО НАВАТ НА БЕЛАРУСКАЙ АПАРАТУРЫ ЗДОЛЕЛІ ЗРАБІЦЬ ГУК, ВЕЛЬМІ ПАДОБНЫ ДА "KISS", "AC/DC", "DEF LEPPARD". ГЕРОІ, ХОЦЬ І НЕЖЫВЫЯ: "НАША ЎСКРАІНА" - ШЭДЭЎР, ПАСЬЛЯ ЯКОГА ТАК НІЧОГА ВАРТАГА І НЕ ЗЬЯВІЛАСЯ.

## Крама. Хворы на рок-н-рол [1993]

Альбом, нелегальна запісаны на студыі "Песьняроў". Штоноч добры сябар "крамчукоў" і па сумяшчальніцтве гукаапэратар "Песьняроў" Аляксандар Папроцкі праводзіў музыкаў у студыю "ўціхую". У выніку быў запісаны шэдэўр. Бадай што ўзорны беларускі рок-альбом: "крамаўскае" выслоўе "Будзь разам з намі" пайшло ў народ, як калісь купалаўскае "Жыве Беларусь", "Стэфку" і "Каханьне а шостай" падбіралі на гітары ў дварах разам зь песьнямі Цоя і Шаўчука, а безь "Бяжы, хлопец" і "Хворы на рок-н-рол" не абыходзіцца ніводзін канцэрт "Крамы". Менавіта гэты альбом зрабіў гурт лідэрам беларускага рок-эшалёну - па яго выхадзе музыкаў узнагародзілі першай гістарычнай "Рок-каронай". Беларускі рок ад "Крамы" зацікавіў і замежных фундатараў. Пакінем без камэнтараў, што гэта былі за яны, але ангелец Нэў Мэйсан выдаў у Вялікабрытаніі ангельскамоўную вэрсію "Хворага..." пад назвай "Vodka on ice" - увогуле першы, але яўна правальны CD у гісторыі Беларусі.




Сам лідэр гурта Ігар Варашкевіч зазначае, што і да сёньня беларускамоўны "блюзец" выконвае на прыстойным узроўні толькі "Крама".

## Gods Tower. "The Eerie" [1993]

ЖУДАСНЫ АЛЬБОМ, ЗАНАДТА ЎРАЖЛІВЫМ СЛУХАЦЬ НЕ РЭКАМЭНДУЕЦЦА.
"ВУСЬЦІШНЫ, ЗМРОЧНЫ" ПАВОДЛЕ НАЗВЫ І САПРАЎДЫ НАСКРОЗЬ ПРАСЯКНУТЫ ЧОРНАЙ ЦІШЫНЁЙ І ЖЫВЁЛЬНЫМ РЫКАМ. МУЗЫКІ БАЛЯНСУЮЦЬ ПАМІЖ ФОЛЬКАМ, ПАГАН-МЭТАЛАМ, ГОТЫК-МУЗЫКАЙ І ДУМАМ, ВЫДАТНА СПАЛУЧАЮЧЫ ГЭТЫЯ НАКІРУНКІ. ШТО ВАЖНА, НЕАБАЗНАНАМУ Ў "ЦЯЖКІХ" КІРУНКАХ НАСТОЙЛІВА НЯ ХОЧАЦЦА ВЫКЛЮЧЫЦЬ СІДЗЮШНІК - ЦІКАВА ПАСЛУХАЦЬ ЖЫВЫХ КЛЯСЫКАЎ. У 1993 ГОДЗЕ "THE EERIE" ВЫЙШАЎ НА MC, АЛЕ ПЕРАВЫДАНЬНЯ НА CD (ЛЭЙБЛ METALAGEN) ДАВЯЛОСЯ ЧАКАЦЬ ДОЎГІЯ 4 ГАДЫ. І ВАРТА БЫЛО: У 1997-М "ЗМРОЧНЫ" СУСТРЭЛІ ЯК НОВЫ. ЗЬДЗІЎЛЯЕ ЁН І СЁНЬНЯ - НЕПАЎТОРНЫМ СПАЛУЧЭНЬНЕМ ПАГАНСКАЙ МАГУТНАСЬЦІ, ЦЯЖКАГА ГІТАРНАГА ГУКУ З ПРУГКІМІ, СЬВЕТЛЫМІ, АМАЛЬ БЯЗВАЖКІМІ СОЛА. ГІТАРЫ ТО ГУЧАЦЬ ПА-ШАМАНСКУ НАПЕЎНА, ТО СТОГНУЦЬ І РАЗАМ З ХРЫПЛЫМ РЫКАМ ЛЕСЬЛІ НАЙФА ВАЛЯЦЬ У БАГНУ ПЕРШАБЫТНЫХ ІНСТЫНКТАЎ. НЯТАННА І СУРОВА.






## Ляпис Трубецкой
## Ракетное сердце [1996]

САМАЯ ЎДАЛАЯ Ў БЕЛАРУСКІМ РОКУ СПРОБА НАБЛІЗІЦЦА, А НЕ ПАДЛІЗАЦЦА ДА МАСАЎ.
АРЫГІНАЛЬНАЕ РАШЭНЬНЕ: МІХАЛОК З ТАВАРЫШАМІ СТВАРЫЎ ВОБРАЗ ГЭТКАГА ПРОСТАГА ЗАКАХАНАГА "ПРАСТАЧКА", ЗДОЛЬНАГА ЗАДАВОЛІЦЬ СВАІМІ ПАВОДЗІНАМІ ЎСІХ. ПОБАЧ З ТАКІМ СІРОЖАМ, У ЯКОГА НЕ ЖЫЦЬЦЁ, А "АБЫ ЧЁ", ІНТЭЛЕКТУАЛЫ НАРЭШЦЕ ЗМАГЛІ АДЧУЦЬ СЯБЕ РАЗУМНЫМІ І РАЗВАЖЛІВЫМІ, А ТАКІЯ Ж "ПРАСТАЧКІ" - ПАБАЧЫЦЬ "СВАЙГО" ХЛОПЦА Ў "ЦЕЛЯВІЗАРЫ" І ПАРАДАВАЦЦА: "О, ЗАШЫБІСЬ!"
ЧУЛІ Б ВЫ ТУЮ СПРЭЧКУ Ў 1996 ГОДЗЕ З НАГОДЫ ЎЗНАГАРОДЖАНЬНЯ "ЛЯПІСАЎ" "РОК-КАРОНАЙ"... АДНЫЯ ДАКАЗВАЛІ, ШТО РОКАМ "АБЗЫВАЦЬ" ПЕСЬНІ СА СЛОВАМІ "Я ЖЕЛУДОК, ТЫ - ЕДА..." СУЦЭЛЬНАЕ БЛЮЗЬНЕРСТВА, ІНШЫЯ Ж ЗАПЭЎНІВАЛІ, ШТО "ЛЯПІСЫ - ГЭТА НАША "ЎСЁ" СУПРАЦЬ ІХНАГА "НІЧОГА".
У ТЫМ ЖА 1996 ГОДЗЕ НА ЗАЎВАГУ ЖУРНАЛІСТА ЗЬМІЦЕРА БЕСКАРАВАЙНАГА "ВАС НАЗЫВАЮЦЬ САМЫМ ПРАГРЭСІЎНЫМ БЕЛАРУСКІМ ГУРТОМ" СЯРГЕЙ МІХАЛОК АДКАЗАЎ: "ГАЛОЎНАЕ, КАБ НЕ РЭГРЭСІЎНЫМ І НЯ РУСКІМ!" ХІБА ШТО ЗЬДЗЕКАВАЎСЯ ЗЬ СЯБЕ, БО ЎЖО ПРАЗ ГОД ДЗЯКУЮЧЫ РАСЕЙСКАМУ РЭКАРДЗ-МОНСТРУ "СОЮЗ" У ТАКТ МІХАЛКУ "АУ, АУ, АУ" ПАДВЫВАЎ УВЕСЬ СНД.

## Палац. Фольк-мадэрн [1994]

Слова "мадэрн" у 1994 нават у Беларусі ўспрымалі з іроніяй - "на двары постмадэрнізм, а тут гэтыя!" Але студэнты Інстытуту культуры сапраўды паглядзелі мадэрнова (то бок па-сучаснаму) на беларускую фальклёрную спадчыну, адаптаваўшы старадаўнія народныя песьні пад папулярныя на той час дыска-матывы і аздобіўшы гэта ўсё рэчытатывам. А каб ніхто ня думаў, як гэта ўсё назваць, музыкі самі далі вызначэньне на вокладцы - фольк-мадэрн.




Голас Алега Хаменкі, набліжаны хутчэй да жаночых, чымся мужчынскіх сьпеўных традыцыяў, і яго нестандартныя для беларускай эстрады рухі цела добра задавальнялі патрэбу масаў у "сваіх" танцах і такіх жа "зорках". Пакінем пры сабе ўспаміны нават пра самыя ўбогія "эўра-дэнс"-праекты MAXX, Ice MC і інш., на тле якіх аранжыроўкі "Палаца" выглядалі яўна па-беларуску, але калі ўзгадаць, што пасьля "Песьняроў" тут ніхто нічога падобнага не рабіў... Нарэшце, попыт на беларускі фальклёр быў адноўлены. Далей ён будзе толькі ўзрастаць: з фольк-студыі "Палац" паўстануць "Крыві" і "Юр'я", а недзе праз два гады ў Галяндыі выйдзе першы альбом "Троіцы".

## Нейро Дюбель. Умные вещи [1995]



Над двайным альбомам "Умные вещи" музыкі працавалі 48 гадзінаў (вядома, зь перапынкамі), падчас якіх выкарысталі "немеряно пива, немного водки и коньяку". Сёньня Кульлінковіч узгадвае, што альбом пісалі жыўцом, песьні амаль ня зводзілі, бо працавалі дзеля жарту. Панкі, што зь іх узяць!
Жарты жартамі, але ўсяго праз два тыдні пасьля выхаду "Умные вещи" намінуюцца на "Лепшы беларускі альбом" "Рок-кароны'95". Хуткі посьпех складана патлумачыць. Можа, прычына ў арыгінальным поглядзе на песьні з "Бременских музыкантов", можа, панкаўскія шчыраваньні "Боже, покарай Англию", "Петрова", "Гуси-лебеди" - амаль кожны сярод 27 песень мог знайсьці нешта сваё. І безумоўная клясыка расейскамоўнага белроку - "Резиновый дом" - такі айчынны "Nothing Else Matters". А можа, народ закалупала, што па некалькі год у Беларусь не наведваецца Мамонаў ці які "Аукцыон"... "Умные вещи" - тлустая кропка ў панкаўскай кар'еры "дзюбелей", хоць ярлык "нашыя панкі" на гурт пасьля гэтага запісу начапілі канчаткова. Кульлінковіч жа адмаўляецца ад гэтага: "Людцы, мы ж граем звычайны рок, якія мы панкі!?"



## Новае неба. Мая краіна [1996]

Адзін з самых своечасовых альбомаў. У 1996 ён быў патрэбны так, як, можа, за 90 гадоў да яго выхаду быў патрэбны зборнік вершаў Цёткі з "гітом" "Мора". Адпаведны і пафас вершаў: "Мая краіна пад белым сьцягам з чырвонай стужкай". Той надрыўны голас Касі і нэрвовая "мроеўская" гітара (гэта быў апошні альбом НН, дзе бралі ўдзел Вольскі and K), тыя тэксты Сыса, Вольскага, Бабкова (узгадайма яшчэ альбом 1995 г. "Прэзыдэнт, ідзі дамоў!") надавалі "пакрыўджаным і зьняважаным" масам пачуцьцё блізкай расплаты. Калі ранейшыя альбомы НН былі зробленыя з арыентацыяй на падрыхтаваную (элітную?) аўдыторыю, то "Мая краіна", падаецца, хіліцца да неакрэсьленага ні колькасна, ні якасна, але масавага слухача. Без сумневу, НН - адзін з самых адметных праектаў 90-х, а Кася Камоцкая сапраўды - "каралеўна"!

## Крыві. За туманам [1997]

З гэтым альбомам праект студыі "Палац" набывае поўную самастойнасьць. Пасьля шматлікіхпературбацыяў сфармаваўся "залаты" склад "Крыві": Вераніка, Тодар ды Піт. Адбыліся і стылёвыя зьмены - музыкі адмовіліся ад заюзанага "фольк-мадэрну" і прыхіліліся да найбольш актуальнай (прынамсі, у Цэнтральнай Эўропе) world music. Піт, напрыклад, які ніколі ня скардзіўся на сьціпласьць, посьпех "Крыві" тлумачыць уласна сваім прыходам у гурт: маўляў, тысячы прыхільнікаў N.R.M. пачалі слухаць этна-рок праз яго. Можа й так, а магчыма, галоўная прычына ў цудоўным спалучэньні вакальных дадзеных Кругловай і Вайцюшкевіча ці ў адсутнасьці рэпэтыцыяў (выступы "Крыві" пабудаваныя на імправізацыях). Факт у тым, што пасьля "Песьняроў", "Палаца" ды "Троіцы" музыкі знайшлі свой - мульты-культы - падыход да беларускай аўтэнтыкі і абвесьцілі пра нараджэньне новай - "крывіцкай".

## Drum Ecstasy. Dopili vino barabany udarili v raz [1997]

ПЕРШЫ АЛЬБОМ ГУРТА DRUM ECSTASY ДАКАЗВАЕ ВЯДОМУЮ ТЭЗУ: НАВАТ САМЫ ДАСКАНАЛЫ ЗАПІС НЯ МОЖА ЗАМЯНІЦЬ ЖЫВОГА ВЫСТУПЛЕНЬНЯ КАМАНДЫ НА СЦЭНІЧНАЙ ПЛЯЦОЎЦЫ. ТЫМ БОЛЬШ КАЛІ ГАВОРКА ІДЗЕ ПРА АДНАГО ЗЬ ЛІДЭРАЎ АЙЧЫННАГА АНДЭРГРАЎНДУ, ЭНЭРГЕТЫКА ІМПРЭЗАЎ ЯКОГА ХОЦЬ І БУДУЕЦЦА НА DRUM-РЫТМАХ, АЛЕ ВЕЛЬМІ МОЦНА ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ВІЗУАЛЬНАГА СУПРАВАДЖЭНЬНЯ (СЬВЕТАВЫХ ІЛЮМІНАЦЫЯЎ, СЛАЙДАВАГА ШОЎ, НАРЭШЦЕ, ЗНАКАМІТЫХ ТАНЦАЎ СА СЬЦЯГАМ) І ЭФЭКТУ ПРЫСУТНАСЬЦІ. ЦІ ВАРТА ЎВОГУЛЕ ГУРТУ, ЯКІ МАЕ БОЛЬШ ЗА 60 ІМПРЭЗАЎ ШТОГОД, НЕШТА ЗАПІСВАЦЬ, КАЛІ Ў ВЫНІКУ АТРЫМАЕЦЦА БЛЕДНАЯ КОПІЯ ЖЫВОГА ВЫСТУПЛЕНЬНЯ?
МЕНАВІТА ГЭТЫ ЗАПІС, ДЗЕ БЫЛІ СКАМПІЛЯВАНЫЯ КАМПАЗЫЦЫІ ДА 1997 ГОДУ (УКЛЮЧНА З СУПЭРХІТОМ "OH EMPIRE"), ДАЗВОЛІЎ МУЗЫКАМ ЗАФІКСАВАЦЬ ПЭЎНЫ ЭТАП, А НЕЗНАЁМЫМ - ПАЗНАЁМІЦЦА З КУЛЬТУРНАЙ ЗЬЯВАЙ. ЗНАЁМЦЕСЯ, І ДА СУСТРЭЧЫ НА ІМПРЭЗАХ.




## N.R.M. Одзірыдзідзіна [1996]

Альбом, што даў сьвету "Партызанскую", "Мы самі па сабе", "Лепей ня будзе" і іншыя гіты. Менавіта пасьля яго N.R.M. набылі папулярнасьць, згубленую "Мроя", і гэты посьпех сапраўды амаль ня быў зьвязаны зь імем "вэтэранаў беларускага стод-року" - зусім іншая музыка і падыход. Хай сабе ідэя "незалежнай краіны-гурта" ня надта "сьвежая" - яе ўжо выкарысталі хлопцы з вугорскай каманды "Лайбах", хай паміж Вольскім і Кабэйнам доўгі час праводзілі паралелі. Але ж галоўнае ў тым, што самі N.R.M. здолелі стацца музычным сымбалем "нашай ускраіны": прамежак часу, які пачаўся з гэтага альбома і цягнецца дагэтуль, можна назваць "эрай N.R.M.". У гэтым жа альбоме канчаткова сфармаваўся той самы гук, вядомы зараз як "энэрэмаўскі". На жаль ці на шчасьце, фальклёр у рок-апрацоўках (гл. "Мела мама тры сыночкі") далей так не прыжыўся.




## Narodny Albom [1997]

Першы і самы ўдалы айчынны супольны праект. Менавіта падчас запісу NA канчаткова сфармавалася гэткая "супольная тусоўка", беларускі "порочный круг": N.R.M., ULIS, НОВАЕ НЕБА, KRIWI і Памідораў. Што праўда, падчас працы над NA Камоцкая з Вольскім пасварыліся канчаткова, пакрыўдзіўся на ўсіх Корань, Памідор паверыў у свой сьпеўніцкі талент, а Круглова і Вайцюшкевіч прамянялі Выдронка на Паўлава. Атрымаліся з гэтага ўсяго яшчэ некалькі "супольных з прэтэнзіяй": "Сьвяты вечар", "Я нарадзіўся тут" - бляклыя, безыдэйныя і аднастайныя.




Хросны бацька NA Міхал Анемпадыстаў, мастак і паэт, - самы сьвядомы кан'юнктуршчык: пад нястройныя скавытаньні пра "загублены край" ён напісаў гісторыю беларускага мястэчка, якога не было, але якое мусіла быць. Сьмешнае, недурное і "зь ідэяй" лібрэта падмацаваў "цьвет" беларускай альтэрнатыўнай музыкі, зрабіўшы ф'южн з полькі, танга, рамансу, псыхадэліі, хіп-хопу. Простая і густоўная апэрэтка, то бок мюзыкал, пра і для беларусаў.

## Вольныя танцы
## Слухай сваё! [1999]

ПЕРШАЯ І БАДАЙ САМАЯ ПАСЬПЯХОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ РОК-КАМПІЛЯЦЫЯ: ПАНАТЫКАЦЬ У АДНО СТОЛЬКІ ЎСЯГО (РОК, ПАНК, НОЙЗ, ПОПС) І АДНЫМ МАХАМ ЗАРАЗ НІХТО НАВАТ НЕ НАВАЖЫЦЦА, А ТАДЫ, ПРЫ ПАСТАЯННАЙ АДСУТНАСЬЦІ БЕЛАРУСКІХ РОК-"ГІТОЎ" У АДНЫМ МЕСЦЫ І ФАТАЛЬНА КЕПСКІМ ГУКУ АЎДЫЁКАСЭТАЎ ФАРМАТ DIGITAL ДАВАЎ ЗЯЛЁНАЕ СЬВЯТЛО БЕЛАРУСКАМОЎНЫМ. У ЗАХАПЛЕНЬНІ ТЫЯ ПРЫЦІСКАЛІ ДА ГРУДЗЕЙ ДАЛОНІ, ЗЬ ЛЁГКІХ ВЫРЫВАЛАСЯ ПАТАСНАЕ "НАРЭШЦЕ!". АДЗІН ЗЬ ПЕРШЫХ CD У БЕЛАРУСІ РАЗЫЙШОЎСЯ СА СЬВІСТАМ, НЕ ЗВАЖАЮЧЫ НАВАТ НА РЭДКАСЬЦЬ УЛАСНА CD-ПРАЙГРАВАЛЬНІКАЎ. ТАДЫ НАВАТ ДУМКІ НЕ БЫЛО, ШТО БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫКА МОЖА ПРЫНОСІЦЬ НЕЙКІЯ ГРОШЫ. ДАЛЕЙ ЗБОРКІ "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ" СТАНУЦЦА ТРАДЫЦЫЙНЫМІ І СХІЛЬНЫМІ ДА МЭЙНСТРЫМУ.
ЗРЭШТЫ, ЯК І ЎВЕСЬ "БЕЛАРУСКІ РОК"...

## Alice's Adventures In Wonderland

"Прыгоды Алесі ў дзівоснай краіне" былі напісаныя Льюісам Кэралам (псэўданім Ч. Л. Доджсана) у 1863 г. Ч. Л. Доджсан - паважны ангелец-віктарыянец, выкладчык лёгікі ў сане дыякана, аўтар сур'ёзных матэматычных трактатаў. Льюіс Кэрал - стваральнік дзіўных і абсурдных сьветаў, аматар лягічных парадоксаў і галаваломак.



Дзівосную краіну, дзе блукала Алеся, Кэрал прыдумаў, каб павесяліць Эліс Лідэл і яе сясьцёр, маленькіх дзяўчынак, дачок рэктара календжу, у якім выкладаў Доджсан. Усё жыцьцё ён шчыра і, як даказалі ўніклівыя дасьледчыкі ў піку прыхільнікам пэдафільскай вэрсіі жыцьця клясыка, абсалютна цнатліва сябраваў з маленькімі дзяўчынкамі. (Адной зь іх ён пісаў: "Некаторыя дзеці маюць надта непрыемны звычай вырастаць і рабіцца вялікімі. Спадзяюся, ты ня зробіш нічога такога да нашай наступнай сустрэчы". Зрэшты, цытата - лепшы аргумэнт як для аднаго, так і другога боку.)

Як аказалася, дзіцячая кніга можа сур'ёзна задурыць галовы дарослым. Калі гэта здарылася, "Алеся" стала адным з самых камэнтуемых твораў. Лёгікі, матэматыкі, літаратуразнаўцы, культуролягі, псыхааналітыкі, рэлігіязнаўцы і фізыкі знаходзяць у ёй цікавыя для іх намёкі і ідэі - быццам Кэрал не стварыў казку, а запісаў калектыўны сон, у якім ёсьць усё.

Напрыклад, чым Піцьцё гарбаты з вар'ятамі ў доме Шапавала падобнае да мадэлі пашыральнага Сусьвету? Фізыкі сьцьвярджаюць: адчуваньнем часу. У доме Шапавала стрэлкі гадзіньніка заўсёды стаяць на шасьці, таму там усе пастаянна п'юць гарбату (то бок часу няма, а пасьлядоўнасьць падзеяў - у наяўнасьці). Згодна з мадэльлю Эйнштэйна - ДэСітэра (1917) у пачатковы пэрыяд узьнікненьня сусьвету аб'ём яго быў вельмі малы, а шчыльнасьць матэрыі надзвычай высокая.

Пры такіх умовах працэсы, з пункту гледжаньня нейкага зьнешняга назіральніка, адбываюцца так марудна, што можна казаць - плыня часу спынілася (больш падрабязна - гл. камэнтары М.Гарднэра).

Пры тым, што "Алеся" - казка вельмі ангельская і на іншыя мовы перакладаецца зь цяжкасьцю (адныя рэаліі віктарыянскай Брытаніі чаго вартыя), у мінулым годзе нейкі Максім Шчур пераклаў "Alice" на белмову. Тое, што атрымалася, як мінімум прэтэндуе на адзін з самых запамінальных перакладных тэкстаў апошніх пяці год.

Відавочна, што для перакладчыка самым важным было ўбачыць і апісаць Алесю ў беларускім кантэксьце. Таму ператварэньне Alice у Алесю цалкам лягічнае: па-першае, ёсьць яўнае фанэтычнае сугучча імёнаў, па-другое, Алеся - адно са знакавых жаночых імёнаў для беларускай культуры (узгадайма Купалу і Багдановіча), якое паводле "беларускасьці" ў масавай сьвядомасьці стаіць у адным шэрагу зь якім-кольвек Янкам. Нацыянальная прыналежнасьць вэрбальна выяўляецца і ў гэтак званых памежных, ці крытычных сытуацыях, што перажывае гераіня. Алеся адназначна сьцьвярджае сваю нацыянальную прыналежнасьць падчас нечаканых фізіялягічных пературбацыяў каля століка зь піражком і бутэлечкай, калі, велічэзная і няшчасная, разам з табліцай множаньня і геаграфічнымі практыкаваньнямі спрабуе ўзгадаць што-небудзь зь дзіцячай клясыкі, у выніку чаго зьяўляецца інтэрпрэтацыя на тэму:

*Не сядзіцца ў жыце*
*Слоніку маломy*
*Кліча яго грэчка,*
*Цягнуць качкі з дому.*

Па чутках, Шчур падрыхтаваў да друку каля 5 перакладаў Alice's Adventures in Wonderland, перш чым спыніцца на самым апошнім (гл. часопіс "Архэ"). Але ж і было над чым працаваць!

*Вольга Сьмірнова*

## Антыдэпрэсанты

У нас усе чамусьці лічаць, што есьці пігулкі, якія выводзяць з дэпрэсіўнага стану, несалідна - маўляў, і так адолеем.

Насамрэч дэпрэсія - гэта не слабая воля і не нядбайнасьць, а хвароба, якую трэба лячыць адпаведнымі сродкамі. Яшчэ адзін забабон, быццам А выклікаюць непазьбежнае прывыканьне - і ўсё, прывет! Амэрыканскія навукоўцы аўтарытэтна заяўляюць: калі не прымаць іх слановымі дозамі, як звычайна гэта рабілі з пацыентамі ў савецкіх вар'ятнях, то ніякага прывыканьня не адбудзецца. У ЗША на А зараз сядзіць каля 65% насельніцтва, а загінула ад перадозу за апошні год усяго толькі 300 чалавек.

Іншая справа, як А ўплываюць на псыхіку, асабліва калі тая пастаянна знаходзіцца ў стане стрэсу. Як заўжды, навукоўцы трымаюцца дзьвюх супрацьлеглых пазыцыяў - "ніяк" і "яшчэ як!". Першыя лічаць, што А ніяк не ўплываюць на псыхіку, дакладней, амаль ніяк - можна казаць толькі пра пабочныя эфэкты ў пацыентаў. Так, у студзеньскім нумары Psychiatric Annals надрукаваныя дасьледаваньні, паводле якіх апошнія выпрабаваньні залофту, паксылу і празаку выявілі, што ў пацыентаў пасьля ўжываньня гэтых А выяўляюцца пабочныя, але трывожныя эфэкты: у жанчынаў адзначаюцца цяжкасьці пры дасягненьні аргазму, а ў мужчынаў - зьніжэньне полавай цягі. На гэтыя сьцьверджаньні нейкі доктар Лэбат небеспадстаўна адказвае, што было б дзіўна чакаць у хворых на дэпрэсію сымптомы сэксбамбізму ці мачызму, а падругое, калі дасьледчыкі такія разумныя, то чаму б ім не выяўляць пабочныя эфэкты ня толькі апэратыўна, пры звароце пацыентаў, але рабіць мэтанакіраваныя і пастаянныя дасьледаваньні зьменаў полавых функцыяў. Тым больш што ўсялякія дзівосы зьнікаюць, як толькі А выходзяць з мацыёну "ахвяраў".

Прыхільнікі "яшчэ як!" упэўненыя, што любыя штучныя "гульні з розумам" вядуць да незваротных пераўтварэньняў у мозгу, незалежна ад таго, выяўляюцца яны адразу ці праз пэўны час. Сьведчаньне гэтаму - празак, які ня толькі зьніжае актыўнасьць лімбічнай сыстэмы, але назаўсёды пакідае ў ёй страшныя адбіткі.



Разбор палётаў - ня наша справа, але параіць быць больш дасьведчанымі і акуратнымі - наш абавязак. Такім чынам, А традыцыйна дзеляцца на транквілізатары (якія заспакойваюць) і стымулятары (якія бадзёраць). Акрамя таго, дактары адрозьніваюць больш сучасныя А першага шэрагу (да іх адносяцца, напрыклад, празак, залофт, паксыл, цыпраміл) і А другога шэрагу (ніямід, іміпрамін, сынэкван, лудыяміл). Калі каротка, іх адрозьненьне палягае ў ступені псыхатропнасьці: "другі шэраг" больш моцны, б'е па мазгах і мае кучу пабочных эфэктаў. Да таго ж ён больш танны.

Да нас, маладых і недасьведчаных, А трапілі ў сярэдзіне 1960-х: іх прыгаршчамі елі моды, каб пасьля са спакойнай і гатовай да актыўнасьці брытанскай душой ісьці на начное руханьне. Самы-самы А - гэта вядомы ecstasy, апагей усяго псыхатропнага: праз 10 хвілінаў пасьля ўжываньня пачынаеш усьміхацца, яшчэ праз 10 - любіць (а некаторыя - кахаць) усіх вакол. У 1981-м у NY быў усяго адзін супэрэлітны дылер, які гандляваў Е. У 1988-м танным Е ўжо аб'ядаўся хто заўгодна... І ніякае дэпрэсіі?

*В.Скугарэўскі*



# САМ ТЫ ВЫДАТ!

тэкст: Ленін і Джэці

Самвыдат - **"літаратура, якая выдаецца недзяржаўнымі выдавецтвамі без дазволу цэнзуры <...> і таемна распаўсюджваецца сярод чытачоў"**. Прынамсі, такое выходнае значэньне слова. У савецкія часы для некаторых гэта была бадай што адзіная магчымасьць выказацца. **"Вялікі і магутны"** даволі даўно зьнік, але самвыданьні працягваюць зьяўляцца. Іх робіцца нават **болей**.




Не, відацьне цэнзура спарадзіла самвыданьні. І наўрад ці просты недахоп інфармацыі прымушае сотні людзей на ўласныя грошы маляваць самаробныя часопісы, а потым рабіць зь іх ксэракопіі. Сучасны САМВЫДАТ — дакладна нешта большае, чым прадукцыя падпольнага друку.

## самвыдат як АЗАРТНАЯ ГУЛЬНЯ

Хто з нас не гуляў у дзяцінстве ў краму, у бальніцу, у вайнушку ці ў вялікую палітыку? А некаторыя людзі нават сталага веку ніяк не нагуляюцца "ў рэдакцыю". Часам гэтая гульня па захапляльнасьці не саступае наварочаным кампутарным аркадам. Але ў ёй адчуваеш сябе куды больш вольна - і правілы сам выдумляеш, і іншых гульцоў уцягваеш колькі заўгодна. Газэтка або часопіс - гэта такі маленькі сусьвет, а ты - яго дэміург. Ты можаш яго памнажаць, распаўсюджваць, абменьваць... Карацей, радасьцяў поўная пясочніца. А калі вострых адчуваньняў усё ж не хапае, можна выдаць штосьці апазыцыйнае ці звышпанкаўскае - тое, за што дагоняць і паб'юць. Тады яшчэ і "Казакі-разбойнікі" атрымаюцца. Адны людзі гуляюцца нядоўга: зробяць два-тры нумары і кідаюць. А для кагосьці гэтая справа расьцягваецца ледзь не на ўсё жыцьцё (якое таксама - гульня).




## самвыдат як АЛЬТЭРНАТЫВА АФІЦЫЙНАМУ ДРУКУ

У пэўным сэнсе так яно й ёсьць. Толькі адразу трэба зазначыць, што існуюць два тыпы неафіцыйных выданьняў: адны ня маюць нічога супраць таго, каб зь цягам часу зарэгістравацца, а вось другія на тое ніколі не пагодзяцца. Паспрабуйце толькі ўявіць сабе моладзевы часопіс "За*бок" або філязофскі альманах "За*упа Борхеса"... Менавіта такія выданьні і ўтвараюць тую прастору, якую хочацца назваць "самвыдатам" у сучасным разуменьні гэтага слова.
Дарэчы, калі казаць аб прасторавым вымярэньні, дык яно сягае далёка за межы нашай краіны. Самаробныя часопісы (з характэрным вызначэньнем "do it yourself") выходзяць і на тлустым Захадзе, а некаторыя нават трапляюць да нас. Звычайна іх выдаюць розныя радыкальныя грамадзкія аб'яднаньні - антыглябалісты, антыфашысты, анархісты, фэміністы і г.д. - або аматары ультранетрадыцыйных музычных кірункаў (часта выдавец і стваральнік такой музыкі - адна асоба). Тое самае, дарэчы, адбываецца і ў нас. Наагул, "мы" і "яны" шмат у чым падобныя. Варта пачытаць рэцэнзіі (з розных зінаў!) на канадзкі "Retarded Idiots" і гарадзенскі "Рабочы гудок", каб зразумець духоўную блізкасьць абодвух.

> **RETARDED IDIOTS #1 (Dan Charge/674 St-Jean #7/Quebek/G1R1P8/Canada)**
> **Ха, попробуйте убрать все fuck, и он станет в два раза меньше...**
> (зь зіна "V mojom supe pechenje v forme zverjushek", №1, Піцер)

> **РАБОЧИЙ ГУДОК (2000, А4, 40 стр., рус.)**
> **Х*ёвый зин! Хе-хе, вообще зин нормальный, просто если убрать из него все слова "Х*Й" и изображения фаллоса, зин станет меньше, наверное, наполовину. Вот так!** (зь зіна "Без намордника", №2, Менск)

Цэнзура ў такіх выданьнях адсутнічае па вызначэньні. Прытым лаянкавымі словамі тут часам разважаюць пра самыя высокія матэрыі (але гэта ўжо вяршыня дасканаласьці).
Ніводнае афіцыйнае выданьне не надрукуе "пахабшчыну", якая ў панкаўскім зіне выглядае цалкам натуральнай. Зь іншага боку, і стыль афіцыйнай прэсы далёка не заўсёды пасуе "нефармальнаму" выданьню. Возьмем хаця б жанр інтэрвію. Якія рэмаркі могуць дазволіць сабе журналісты "звычайных" газэтаў? Ну, "сьмяецца" або "задуменна маўчыць". А паспрабавалі б яны напісаць "вельмі гучна пукае"! Своеасаблівы шык - сьпісваць запар усё, што чуваць на дыктафоне, нават брэх сабачкі, і захоўваць лёгіку (ці яе адсутнасьць), уласьцівую жывой размове. Вось урывак зь інтэрвію гурта "The Manure" - вядома ж, пра музыку:

> **"Третья попытка**
> **– Пошла. Значит ( ) щелк**
> **Лихаим Клим – Ты на запись не поставил. ( ) щелк**
> **– Раз, два, три – да нет, вроде пошло. ( ) щелк**
> **Ничего, ничего, совершенно ничего, нет ничего. ( ) щелк**
> **Нет, не факт – это батарейки. Это батарейки. А на ( ) щелк**
> **Щелканье**
> **– А нет, смотри ( ) щелк пауза. Мы просто проверяем. ( )**
> **Щелканье.**
> **Клим – Потому что батарейки хе*овые ( ) щелк. На самом деле можно сказать ( ) щелк.**
> **Щелканье..."** (зь зіна "V mojom supe pechenje v forme zverjushek", № 1, Піцер)

Тэматыка неафіцыйных выданьняў - таксама рэч эксклюзіўная. Гэта ў рэспубліканскай газэце будуць распавядаць пра канцэрт у Ля Скала ў гонар пасяўной і абмываць косткі знакамітасьцям. Героі самвыдату - такія ж звычайныя нефармалы, як і самі выдаўцы. Замест падзеяў сусьветнага маштабу тут абмяркоўваецца, хто набухаўся на мінулым канцэрце ў клюбе вёскі Пупкаўшчына, гітарыст якой тамтэйшай каманды лажануўся і г.д. "Вялікія" газэты на карэспандэнцыі падобнага кшталту адказваюць: "Ну каму гэта цікава?" Аказваецца, цікава.

> **"Здрасьці! Вось, раблю новы зін выключна ад сябе і для сябе. Так, я – эгаіст, і ня бачу ў гэтым НІЧОГА кепскага. Для сябе. А для астатніх? А няхай самі глядзяць, можа, чаго пабачаць..."**
> (diy.ego-zine "Говорящий троллейбус", №1, 2001)

Часам выдаўцы зьмяшчаюць у сваіх часопісах свае ж асабістыя дзёньнікі, назіраньні і развагі. І гэта таксама цікава. (А то ж не! Проста чужыя дзёньнікі ў нас чытаць неяк не прынята. Хіба што Кабэйнавыя).
Як сказаў адзін з самвыдатаўцаў, Green, "я ня бачыў нецікавых зінаў" (хаця гэта ўжо, вядома, справа густу). Атрымліваецца так, што той, хто займаецца самвыдатам, ня проста стварае выданьне, альтэрнатыўнае афіцыйным, а кідае выклік грамадзкай машыне: вось я такі, а вы - як сабе хочаце.

## самвыдат як КЛЮБ ЗНАЁМСТВАЎ

Найчасьцей яшчэ адна мэта самастойных выдаўцоў - знайсьці аднадумцаў, пашырыць кола знаёмстваў. Вакол кожнага выданьня, калі яно існуе даволі доўга, утвараецца згуртаваньне выдаўцоў, аўтараў, чытачоў. Гэтыя тусоўкі спрабуюць усталёўваць і падтрымліваць кантакты з "калегамі". У Беларусі ўжо рабіліся спробы аб'яднаць самвыдатчыкаў. Адна зь іх, даволі ўдалая, была зьдзейсьненая ў лютым 2002 г. у Гародні па ініцыятыве КДС "Разам". Прыехалі туды, натуральна, ня ўсе беларускія самвыдатчыкі, але геаграфія прадстаўленых там выданьняў уражвае. У сьпісе прысутных, дарэчы, апынуліся ня толькі гарады, але й вёскі (часопіс "Паника в селе", прыкладам, робяць у в. Ламавічы Гомельскай вобл.). Наведалі Гародню і госьці зь Піцера. Выданьні таксама былі вельмі розныя - ад музычных фанзінаў да грамадзка-палітычных газэтаў. З усяго гэтага заапарку вылучаліся "самыя-самыя": самым тоўстым самвыданьнем быў панкаўскі зін "За*бок" - у ім каля сотні старонак; рабіць і памнажаць такое выданьне даволі цяжка, але ў гэтым і ўся чароўнасьць прадпрыемства. Самыя буйнанакладныя выданьні - "б корпус", "паважная газэта для паважных студэнтаў" (больш за 100 асобнікаў), і газэты грамадзкіх суполак, якія выходзяць максымальным для самвыдату накладам - 299 асобнікаў. Самае шызоіднае - напэўна, нашыя "Вясковыя могілкі". Самае пэдагагічнае - газэта дзіцячага паэтычнага гуртку "Гном". Да таго ж, у Гародні ствараецца бібліятэка самвыдату; такія выданьні зьбіраюць некаторыя бібліятэкі й выдавецтвы ў Слоніме і ў Менску.



## самвыдат як СПОСАБ САМАВЫЯЎЛЕНЬНЯ

Напэўна, самавыяўленьне і ёсьць галоўнай мэтай ці ня ўсіх самвыданьняў. І тут ужо кожны самавыяўляецца на свой лад. Перш за ўсё - з аздабленьнем. Самая распаўсюджаная форма такой творчасьці - стракатыя постмадэрновыя калажы, зробленыя з газэтных фатаздымкаў і надпісаў. Асабліва пастараліся выдаўцы газэты "Бел@чка", якія зьляпілі з усяго гэтага цэлую паэму. У часопісе "Говорящий троллейбус" у якасьці аздабленьня выкарыстоўваюцца, вядома ж, тралейбусныя квіткі. "Вясковыя могілкі" любяць зьмяшчаць на сваіх старонках сапраўдныя абвесткі аб продажы помнікаў з кранальнымі заклікамі "Налетай! Подешевело!" Фонам для матэрыялаў часопіса ўвогуле можа служыць што заўгодна - газэтныя тэксты, контурныя мапы, пакрэмзаныя выразкі з порначасопісаў... Здараецца, выдаўцы няблага малююць - эфэкт атрымліваецца натхняльны. Нам, напрыклад, вельмі даспадобы мастацкае аздабленьне "Мухабойкі" (№1, красавік 2002 г.) і адзінкавага праекту "Marabaka".
Што тычыцца тэкстаў... Тут самае месца разгарнуцца выданьням зь літаратурнай скіраванасьцю. Пра іх наагул трэба весьці асобную гаворку - надта ўжо шмат іх, і ўсе такія розныя... Бываюць цалкам літаратурныя - яны належаць або якому-небудзь згуртаваньню, або прыватным асобам. Першыя часьцей за ўсё маюць схільнасьць да ператварэньня ў "афіцыйныя". "Асабістыя" - цалкам у руках сваіх выдаўцоў (часам і аўтараў адначасова). Найстарэйшае з гэткіх выданьняў у Беларусі - віцебскі "Идиот" (выходзіць з 80-х, зараз выглядае вельмі паважна), літаратурна-мастацкім спачатку быў часопіс "Выгребная яма" (выходзіць з 1994 г.). Сёньня, каб пералічыць назвы ўсіх нефармальных "літвыданьняў", будзе мала пальцаў абедзьвюх рук: газэта "Look Ahead" (Слонім), часопісы "Своя сторона" (Сьветлагорск), менскія "Хню", "Вясковыя могілкі", "Мухабойка", "Буль-Сток", напаўакадэмічнае "Слово и культура"... Пераважна літаратурныя менскі зін "Вредина", гомельская газэта "Аксамітны жах". Ня кажучы ўжо пра аднаразовыя праекты, пра літ-старонкі некаторых музычных зінаў (напрыклад, сьветлагорскія "Trumheim", "Падёж skота", гарадзенскі панкаўскі "Дезертир" і г.д.). Часам увесь часопіс - гэта адзін літаратурны твор, ды яшчэ й з працягам. Пры вялікім жаданьні надрукавацца ў самвыдаце можа кожны, варта толькі дамовіцца з выдаўцом. У "Look Ahead", напрыклад, дастаткова даслаць пэўным чынам аформленыя творы - і яны будуць ня тое што надрукаваныя, але і абмеркаваныя на сходзе ЛТМА "Рунь" і, пры наяўнасьці капэртаў, дасланыя назад разам з рэцэнзіяй.
Творы ж у самвыдаце друкуюцца (або пішуцца ад рукі) самыя розныя. Ад лірыкі прыбіральняў да ўзьнёслых прызнаньняў у любові да Бацькаўшчыны. Зь ненарматыўнай лексыкай і безь яе. Ад хоку да раману.



Адсутнасьць цэнзуры часам нават шкодзіць: побач могуць апынуцца занадта нераўнацэнныя творы - гэтак і аўтара пакрыўдзіць нядоўга. Асабліва калі шэдэўр зьмяшчаецца з усімі памылкамі...

> **Я мову маю зберагу назаўсёды,**
> **Ту мову дзядоў, дзеля мовы дзяцей.**
> **Заўседы хай жывуць беларускія словы,**
> **Ад гэтага мова мая багацей.**
> (Skандал, "Look Ahead", № 4'2002)

Сапраўды, хай жывуць. Калі здолеюць. Можа, натуральны адбор - ня самы горшы шлях разьвіцьця літаратуры.

## самвыдат як ІНТЭРНЭТ

Прастора сучаснага самвыдату вельмі нагадвае інтэрнэт. Там таксама няма цэнзуры, павесіць свае творы на які-небудзь літаратурны сайт можа хто заўгодна, дый музычныя сайты маюць шмат агульнага з фанзінамі. Хіба што кампутар ёсьць ня ў кожнага беларуса, а папяровае выданьне даступнае для ўсіх. Асаблівае замілаваньне выклікае наяўнасьць у самвыданьнях "гіпэрспасылак". Тут часта зьмяшчаюцца рэцэнзіі на іншыя выданьні - вядома, з кантактнымі адрасамі, тэлефонамі, і-мэйламі і да т.п. Напішы - і атрымаеш яшчэ адзін зін. Гэтак жа, як націсьнеш мышкай на спасылку - і патрапіш на іншы сайт.

## ня толькі НА ПАПЕРЫ

Той, хто думае, што самвыдат можна толькі чытаць, жорстка памыляецца. Яшчэ яго можна слухаць. У наш час самаробныя музычныя запісы - зьява звычайная. Распаўсюджваюцца яны часта разам з музычнымі зінамі падобнага кірунку, а некаторыя запісы зьяўляюцца гукавым дадаткам да іх (напрыклад, зборка экспэрымэнтальнай музыкі "Toiletpaper Swift" знаходзіцца ў прамым сваяцтве зь зінам "Выгребная яма"). Пра эстэтычную блізкасьць папяровага і музычнага самвыдату сьведчыць і аздабленьне ўкладышаў да гэтых касэтаў. Яны падобныя да старонак фанзінаў, а часам нават выглядаюць як самастойныя газэткі са сваімі мастацкімі тэкстамі й малюнкамі, якія ўтвараюць адно цэлае з музычным запісам.

***

"Ok, – скажа чытач, – і дзе ж усе гэтыя газэты, касэты, часопісы? Чаму іх няма ў кнігарнях, шапіках Белсаюздруку?" А таму, што самвыдат - справа ўсё ж такі падпольная. І каб знайсьці яго, давядзецца трошкі пашукаць. Знойдзецца ён дакладна: акрамя саміх выдаўцоў, якія не хаваюць сваіх адрасоў ад ахвочых набыць іхныя "вырабы", ёсьць спэцыяльныя кропкі (так званыя distro), праз якія тыражуецца і распаўсюджваецца самвыдат; часам можна набыць усё гэта і на панкаўскіх канцэртах, і нават... на катэдрах ВНУ. Карацей, трэба ведаць месцы.
Можна і самому штосьці такое зрабіць. Гэтая думка апошнім часам наведвае шмат галоваў: самвыданьні працягваюць зьяўляцца і робяцца да нечаканасьці разнастайнымі. Яшчэ трохі - і яны створаць адчувальную канкурэнцыю афіцыйнаму друку. Але наўрад ці зоймуць яго месца. У самвыдату – іншая філязофія.



# CINEMAФІЯ

тэкст: D&A

**Пагадзіцеся, нашае стаўленьне да кінапрадукту не ў апошнюю чаргу залежыць ад наяўнасьці ў яго доўгага сьпісу ўзнагародаў ці хаця б ад самога факту яго ўдзелу ў розных кінафэстах. Гэтую слабасьць на ўсе 100 эксплюатуе кінаасьветнік нашай краіны УП "Кінавідэапракат", актыўна нашпігоўваючы фляеры чарговых паказаў "фармату 4х4" доўгім пералічэньнем "засьветаў" прэзэнтаванай стужкі на ўсіх магчымых фэстах. Каб табе было лягчэй разабрацца, паспрабуем даць кароткі агляд самых прэтэнцыёзных кінамерапрыемстваў сьвету.**

**Тэарэтычна колькасьць фэстаў абмяжоўваецца колькасьцю месцаў іх правядзеньня. Кіношны Top5 паводле Сусьветнай асацыяцыі кінапрадусараў на дадзены момант выглядае так: Кан – Бэрлін – Таронта – Вэнэцыя – Манрэаль.**

## 1 КАНСКІ КІНАФЭСТ

*Лазурны бераг, Кан. Сярэдзіна траўня. "Чэмпіянат сьвету па кіно", прызнаны галоўным фэстам у кінасьвеце.*

**Узрост.** Старт быў заплянаваны на верасень 1939, але Другая Сусьветная зблытала аматарам кіно ўсе пляны, таму гісторыя Канскага кінафэсту вядзецца ад верасьня 1946-га.

**Што глядзім.** Фільмы прымаюцца па прынцыпе "нідзе і ніяк": нідзе не дэманстраваліся, ні ў якіх фэстах ня ўдзельнічалі, былі зьнятыя на працягу 12 месяцаў "да таго як". У конкурснай праграме бяруць удзел як поўна-, так і кароткамэтражныя мастацкія стужкі.

**Што даюць.** "Залатая Пальмавая Галіна" - за лепшы фільм, "Залатая камэра" - за лепшы дэбют. За асаблівыя дасягненьні можна атрымаць Гран-пры журы, спэцыяльныя прэміі, прызы за рэжысуру, акторскую ці апэратарскую працу.

**Па сутнасьці.** Напачатку Кан быў вядомы як "кірмаш фанабэрства" і лічыўся самым буржуазным месцам у сьвеце. Але зь цягам часу французы ператварылі гэны evenement у радыкальны кінапрагляд, які адорвае ўзнагародамі самых культавых і наватарскіх рэжысэраў. Ужо дасталося Содэбэргу, Лінчу, Тарантыну, Кустурыцу... У фэстывалю ёсьць цікавая традыцыя: уручаць "Пальмавую галіну пальмавых галінаў" тым вялікім майстрам кінамастацтва, якія ці то не захацелі, ці то праляцелі ў свой час міма галоўнага прызу. Адным з такіх у мінулым годзе стаў Вудзі Ален. Выбітны амэрыканскі камэдыёграф заявіў, што ў французаў ёсьць пра яго два памылковыя ўяўленьні: "Першае - што я інтэлектуал. Гэта таму, што я нашу акуляры. Другое - што я вялікі майстар сваёй справы. Гэта з-за таго, што мае фільмы не зьяўляюцца касавымі. І першае, і другое - няпраўда".

## 2 БЭРЛІНАЛЕ

*Нямеччына, Бэрлін. Люты.*

**Узрост.** Фэстываль сярэдніх гадкоў. Ладзіцца з 1951-га. Прадстаўнікі братэрскіх савецкіх рэспублік з-за спэцыфікі сваіх палітычных меркаваньняў ня ўдзельнічалі ў конкурсе ажно да 1974 году.

**Што глядзім.** Гл. "Канскі фэст" + нямецкія субтытры.

**Што даюць.** Фаўна сярэдняй паласы: "Залаты Мядзьведзь", "Срэбны Мядзьведзь", "Бронзавы Мядзьведзь", а таксама спэцпрызы і ўзнагароды за рэжысуру ды акторскую працу. Акрамя гэтага - бонус з чалавечым тварам "Блакітны Анёл" (названы ў памяць Марлен Дытрых) за лепшы эўрапейскі фільм і асобнае медзьведзянё "Тэдзі" (відавочна, Плюшык), што ўручаецца асобным журы за дасягненьні ў прадукаваньні фільмаў пра геяў і лесьбі.

**Па сутнасьці.** У Бэрлінале два твары. Першы - для правільнай большасьці. Непасрэдная мэта - зрабіць прамоцыю фільмам жанру "сур'ёзная драма з прагрэсіўным сацыяльным гучаньнем". Для ўдзелу ў праграме адбіраюцца ў асноўным фільмы, якія на дадзены момант "у кантэксьце". Узнагароды таксама знаходзяць сваіх герояў - каму "Мядзьведзь" абломіцца за плённую шматгадовую працу, каму за паліткарэктнасьць. Другі ж твар - маргінальны і, як вынік, для меншасьцяў (усіх колераў - ад палітычных да сэксуальных). Маргіналы пляжаць нэрвовыя клеткі чэсных людзей з 1971 году, калі Бэрлінале атрымаў свой "фэст у фэсьце" - "Форум маладого кіно" з уласнай дырэкцыяй і традыцыямі. Аснову паказу складаюць авангардныя і некамэрцыйныя стужкі. Да маладых сяброў таварышы са стажам ставяцца з рэўнасьцю і заўсёднай прагай падакпіць.

## 3 ТАРОНЦКІ КІНАФОРУМ

*Канада, Таронта. Верасень.*

**Узрост.** Фэст параўнальна малады - першы паказ адбыўся ў 1976 годзе.

**Што глядзім.** Лепшае, што было зроблена ў сьвеце за апошні год. Прычым у кожным фільме абавязкова ёсьць нешта своеасаблівае, чаго раней у кіно заўважана не было. Таму ты проста ня маеш права прапусьціць ТКФ.

**Што даюць.** Анічога не даюць! Фэст у Таронта - адзінае няконкурснае мерапрыемства ў Big5. Ну, хіба толькі абойма неафіцыйных узнагародаў ад грамадзкіх арганізацыяў і прызы глядацкіх ды журналісцкіх сымпатыяў.

**Па сутнасьці.** Пачыналася ўсё даволі сьціпла. Аматары сабралі з сусьветных кінапраглядаў самыя нашумелыя стужкі, якія і былі прапанаваныя канадыйскім сінэфілам пад соўсам "фэстывалю фэстываляў". Спачатку памкненьні арганізатараў абмяжоўваліся жаданьнем паказаць амэрыканцам добрае кіно, якое да іх не даходзіць (у сэнсе - не трапляе ў шырокі пракат). Пазьней арганізатары нечакана знайшлі сваю дзелавую нішу - "мы - вам, вы - нам". Эўрапейцы фарсуюць амэрыканскую мяжу, амэрыканцы ж прасоўваюць на сусьветны рынак так званыя art-house hits. У 1999 годзе чытачы "Los Angeles Times" прызналі таронцкі фэст нумарам 1 у сьвеце. Лічыцца, што тут нашмат больш зручна і карысна ладзіць сусьветныя прэм'еры. Менавіта канадыйцам можна сказаць thanks і merci за адкрыцьцё для сінэфільскай супольнасьці Пэдра Альмадавара, Кшыштафа Кесьлеўскага, Акі Каўрысьмякі і інш. Маладая шматэтнічная публіка, суцэльная анархія, "Midnight Madness" ("абязбашаная" праграма, дзе прэзэнтуюцца фільмы "з закідонамі"), вялікая колькасьць спэцыфічных праектаў - ад скандынаўскіх і афрыканскіх стужак да расповедаў Ж.-Л. Гадара пра самы ўплывовы фільм у яго кар'еры. Буйнамаштабны, шматамбіцыйны і звышкарысны ва ўсіх адносінах фэст у Таронта ня першы год псуе маліну снобскаму Кану.

## 4 МІЖНАРОДНЫ КІНАФЭСТ У МАНРЭАЛІ

*Канада, Манрэаль. Канец жніўня - пачатак верасьня.*

**Узрост.** Хто пытаецца ў манэрнай дамы, колькі ёй год?

**Што глядзім.** Па традыцыі ў Манрэалі аддаюць перавагу элітнай кінапрадукцыі, крыва паглядаюць на Злучаныя Штаты ды імкнуцца максымальна скараціць колькасьць фільмаў паўднёвага суседа. Высакародная адмазка - у мэтах падтрымаць балянс "амэрыканскага" ды "неамэрыканскага" на кантынэнце.

**Што даюць.** Пераможца атрымлівае прыз са сьціплым назовам "Гран-пры Амэрыкі". Патас цалкам адпавядае сытуацыі. Тлумачэньні - ніжэй.

**Па сутнасьці.** Яшчэ зусім нядаўна, гадоў гэтак 7 таму, фэст у Манрэалі лічыўся найлепшым сярод заакіянскіх. Прынамсі, выбітным сярод элітных. Дый харызматычная асоба прэзыдэнта фэсту - масье Лозіка - дадавала імпрэзе эксцэнтрычнасьці й фанатызму. Сёньня вар'ят-кінафіл, які адчайна абараняе сваё дзіцятка ад нападаў Wild Wild Americans, адначасова ўвасабляе і сілу, і слабасьць Манрэалю. Справа ня ў тым, што Галівуд і "іжа зь імі" перамаглі "эўрапейскасьць па-канадыйску". Проста старамодны Манрэаль не вытрымлівае канкурэнцыі нават у сваім лягеры: яго на поўнай хуткасьці абыйшоў Таронта, а потым і Вэнэцыя, дзе (о, што за дзіўнае супадзеньне!) прагляды пачынаюцца праз пяць-шэсьць дзён пасьля Манрэалю. Гледачы апынаюцца ў сытуацыі выбару: ці Манрэаль, што цікава, ці Вэнэцыя, што знакава. Яшчэ нядаўна акулы фільммэйкінгу думалі, што абраць. Цяпер не вагаюцца. А Манрэалю застаецца азіяцкае ды эўрапейскае кінамастацтва, непарушныя - а ніхто ня рухае! - традыцыі ды моцныя рукі Сэржа Лозіка.

## 5 ВЭНЭЦЫЯНСКІ КІНАФЭСТ

*Італія, выспа Ліда. Пачатак верасьня.*

**Узрост.** Адзін з самых "барадатых" фэстаў Эўропы - першы прагляд адбыўся напачатку верасьня 1932 году.

**Што глядзім.** Зразумела, самае новае, поўнамэтражнае, эксклюзіўнае, "не засьвечанае" па-за межамі краіны-вытворцы і на іншых кінатусэ.

**Што даюць.** Лепшы фільм фэсту атрымлівае "Залатога Льва". Таксама прысуджаецца "Срэбны Леў" і шэраг спэцыяльных узнагародаў за лепшыя рэжысэрскія ды акторскія працы. Раней усе астатнія ўдзельнікі групы заставаліся з носам, але ў 1987 годзе знайшлася ўзнагарода і для іх - "Залатая Азэла".

**Па сутнасьці.** Неверагодна прыгожы горад, напоўнены мітамі й паданьнямі часоў Адраджэньня. Але не спадзявайся, кінафэст адгароджаны ад Вэнэцыі эннай колькасьцю кубамэтраў вады і мае мала агульнага з вэнэцыянскімі мітамі. Ліда - амаль вёска, дзе ўначы ліхтары сьвецяць праз адзін і сам чорт галаву зьверне. Раней галоўнай фішкай Вэнэцыі было млоснае "ах!" перад высокім мастацтвам і грэблівае "фі!" у бок камэрцыялізаваных Канаў. Два гэтыя "чырвоналесьвічныя" знаходзіліся ў стане пэрманэнтных ваенных дзеяньняў. Гадкоў гэтак праз 50 Каны перамаглі. Італьянцы павярнулі свае чарнявыя тварыкі да Галівуду - на галоўнай праграме "Вэнэцыянскія ночы" часам не прадыхнуць ад апошніх галівудзкіх гітоў. Добразычліўцы абвяшчаюць кожны чарговы фэст "пераходным", намякаючы, што час ужо выносіць цела. Тым ня менш заморскія зоркі адчуваюць сябе ў Вэнэцыі бадай што лепей, чым дома. Таму, у адрозьненьні ад большасьці фэстаў, куды за шчыры дзякуй іх не зацягнеш, прыяжджаюць патусавацца ў Ліда добраахвотна. Фанаты не назаляюць, успышкі ня сьлепяць, і сустрэць у закутку гатэлю Excelsior якога-небудзь Тарантыну з цыгаркай у зубах - не праблема. Песьня!

# пяцьдзесят трэці БЭРЛІНАЛЕ

тэкст: Каця Іваноўская

**АДЗІНАЦЦАЦІ ДЗЁН У ЛЮТЫМ ХАПІЛА БЭРЛІНЦАМ, КАБ ЗАБЫЦЦА НА ЎЖО ЗВЫКЛАЕ, АЛЕ АД ТАГО НЯ МЕНШ ПАРАДАКСАЛЬНАЕ КІДАНЬНЕ Ў СРОДКАХ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ АД ПАВЕДАМЛЕНЬНЯЎ ПРА МІЛЬЁННЫЯ ПАЗЫКІ ГОРАДУ І, УЛАСНА, ЯГО БАНКРУЦТВА ДА ПЛЯНАЎ НОВЫХ АРХІТЭКТУРНЫХ МЭГАПРАЕКТАЎ, ШТО МУСЯЦЬ ПАДМАЦАВАЦЬ ІМІДЖ БЭРЛІНУ ЯК АДНОЙ З САМЫХ ЗНАЧНЫХ СУСЬВЕТНЫХ СТАЛІЦАЎ. МАСТАЦТВА ЯКІ ЎЖО РАЗ АКАЗАЛАСЯ МАЦНЕЙШЫМ ЗА МАТЭРЫЮ.**





У пошуках гарадзкіх топ-тэмаў гляджу Berliner Morgenpost ад 8.02.: стандартна маларадасныя перадавіцы (па іх мерках, па нашых - усё люкс-лямант!) забіваюцца "Зьзяньнем зорак" зь велізарнымі фота ўсьмешак Кэвіна Спэйсі, Лаўры Лінэй і Алена Паркера, што прадставілі на "Бэрлінале" свой фільм "Жыцьцё Дэвіда Гэйла" ("The Life of David Gale").
Далей робіцца проста млосна ад імёнаў галівудскіх stars. Прыезд кожнай зь іх у іншы час нават для вялікай эўрапейскай сталіцы быў бы падзеяй, вартай асобнай увагі прэсы. Але зараз зорак пхаюць у аднастайныя радкі: Майкл Дуглас "суправаджае" жонку Катарыну Зэта-Джоўнз, якая разам з Рычардам Гірам прадстаўляе "Чыкага"; Джордж Клуні паказвае ажно два фільмы - "Салярыс" ("Solaris" - рэмэйк Стывэна Садэрбэрга на "Салярыс" Таркоўскага) і "Споведзь небясьпечнага розуму" ("Confessions of a Dangerous Mind")... Мартын Скарсэзэ... Мэрыл Стрып... Нікалас Кэйдж... Ніколь Кідман... Дастын Хофман...
Сьпіс можна было б працягваць, але бляск "Бэрлінале" лепей пацьвярджае назіраньне: некаторыя зоркі (да прыкладу, той самы Спэйсі) былі заўважаныя на фэсьце з фоцікам у руках! Можна ўявіць сабе Кэвіна, які дома дае справаздачу па паездцы ў ФРГ: "Гэта во Бэрлін, тут я на Фрыдрыхштрасэ, а тут я з Кідман".



**ФІЛЯЗОФІЯ**

Як там у Шылера, "...хай заля - пышнасьць, бляск акрас, ня бачце, вочы, іх, ня час..." Увесь шык абуджае прыкрае пачуцьцё, што праз галівудызацыю на другім, а то і на трэцім пляне застаецца інтэлектуальнае кіно, якое традыцыйна мацавала ідэалягічны багаж знаных эўрапейскіх кінафэстаў.
Хаця пытаньне суадносінаў і супрацьстаяньня "камэрцыі і творчасьці" так даўно і доўга дыскутуецца, 53-ці "Бэрлінале" - хутчэй адлюстраваньне гэтай амаль філязофскай праблемы. Пераможца Патрыс Шэро ў адным зь інтэрвію не наважыўся спрагназаваць, як доўга праблема будзе актуальнай, але дыягназ фактычна прагучаў: "Мова эўрапейскага кіно робіцца мёртвай, як лацінская ці грэцкая. Усё большая колькасьць людзей разумее толькі мову амэрыканскіх фільмаў".
І гэта кажа масье "Ідэя эўрапейскага кіно"!



**ЭКАНОМІЯ І ЛІЧБЫ**

"Пасаджаны на дыету" фэстываль стаў у параўнаньні зь мінулымі гадамі на адзін дзень і 80 фільмаў карацейшы. Простаму гледачу заўважаць статыстычныя зьмены цяжка, бо так ці інакш цягам "Бэрлінале" адбылося 630 сэансаў у самых прэстыжных кінатэатрах Бэрліну. Ня цяжка падлічыць, што на кожны дзень прыпадае ў сярэднім 60 сэансаў! І для даведкі: на фэсьце былі прадстаўлены 221 поўнамэтражны фільм і 11 праграмаў-сэансаў кароткамэтражных стужак. Зь іх у





афіцыйнай праграме 22 фільмы ў спаборніцтве за "Залатога Мядзьведзя". Спэцыфіку сёлетняга "Бэрлінале" вызначылі гала-праграмы ў гонар стагодзьдзя з дня нараджэньня японскага рэжысэра Ясудзіро Одзу і ў гонар Анук Эмэ (француская акторка, вядомая па "8 1/2" Ф.Фэліні і "Мужчына і жанчына" К.Лелюша, была адзначаная "Залатым Мядзьведзем" за ўнёсак у кінамастацтва).
У разьдзелах "Форум" і "Панарама" было прадстаўленае новае кіно з усяго сьвету, і тут трэба адзначыць посьпех і шпаркае прасоўваньне ўсходне-эўрапейскага і паўднёва-азіяцкага кіно. Асобна праходзіў конкурс кароткамэтражных стужак, які прыцягнуў вялікую ўвагу публікі.



**ЯК ЭКСПЭРТЫ**

Колькасьць і разнастайнасьць яшчэ больш абвастрылі праблему выбару. Падыход да яе рашэньня таксама нельга назваць адназначным. Таму у якасьці экскурсаводаў па праграме прапануем вам людзей, не абцяжараных набыцьцём квіткоў (тыя, дарэчы, каштавалі даражэй, чым на стандартныя, нефэстывальныя паказы: 7, 11 ці 16 эўра - у залежнасьці ад часу, месца і прэстыжнасьці сэансу - замест звыклых 5-7, і пастаянна заканчваліся перад носам).
**Віда Янускайтэ (пазаштатны карэспандэнт Radio Liberty ў Бэрліне)** не адказвала ні па хатнім, ні па мабільным. Сустрэчы адбываліся адно падчас кароткіх перабежак з аднага кінатэатру ў іншы. Усё, што Віда пасьпявала паведаміць: "Ты бачыла гэты фільм? Паглядзі! (І так амаль што пра кожны!) А я мушу зараз хутчэй" (абанэнт выходзіў з зоны "пакрыцьця" майго кругагляду).
**Кляўс Рэфле (нямецкі дакумэнталіст)**: "Ня быў я ні на адным фільме ні сёлета, ні летась. Гады тры таму вельмі хацеў паглядзець на Мілаша Формана, вось тады і быў. А так трэба кожны дзень з раніцы, гадзінаў у дзесяць, заказваць квіткі (на конкурсныя фільмы замовы трэба рабіць нават акрэдытаваным журналістам і кіношнікам. Але ж квіткі для іх усё адно бясплатныя! - K.I.). Так рана я падняцца не магу, бо ўвечары ўвесь час нейкія імпрэзы ці вечарыны."
**Вераніка Круглова і Махно ("Крыві")**, якія зрабілі сабе чарговую бэрлінскую камандыроўку (у тым ліку дзеля наведваньня "Бэрлінале"), вырашылі менш хадзіць на фільмы афіцыйнай праграмы і засяродзіліся на маладым кіно, у прыватнасьці, на конкурсе кароткамэтражных фільмаў. І правільна: стужкі афіцыйнага спаборніцтва рана ці позна дойдуць нават да Менску. Іх жа фаварыты - уся праграма кароткамэтражак - наўрад ці. Што да "афіцыйнай" праграмы, то варта пашукаць.

**БЭСТ АД "КРЫВІ":**

**"Герой" ("YING XIONG"/"Hero"), рэж. Джанг Жымоў (Zhang Yimou) , Ганконг/ЗША - цікава, незвычайна, ды і ўвогуле вельмі добра;**
**"Гудбай, Ленін" ("GOODBYE, LENIN"), рэж. Вольфганг Бэкер (Wolfgang Becker) - нямецкі фільм для немцаў;**
**"Чыкага" ("Chicago"), рэж. Роб Маршал (Rob Marshall), ЗША - мюзыкал, лепшы з галівудзкіх;**
**І спэцыяльная парада: "Шык", рэж. Бахтыяр Худайназараў і Аляксандар Яшчанка, Галяндыя/Расея.**







**АМАЛЬ НЕЧАКАНАСЬЦІ**

"У гэтым сьвеце" ангельца Майкла Ўінтэрботама, фільм пра лёсы аўганскіх уцекачоў, узяў "Залатога Мядзьведзя". Такім быў канчатковы вэрдыкт журы. Нечаканы: Ўінтэрботам выглядаў яўным серадняком на фоне астатніх, ды і крытыкі ў сваіх папярэдніх камэнтарах не наважваліся выстаўляць запаветныя "сікс поінт зіроў" - толькі "добра" і "так сабе". Тым ня менш журы на чале з канадыйскім рэжысэрам Атомам Эгаянам вырашыла так, а не інакш, пакінуўшы за бортам ня горшага славенца з такімі ж эмігрантамі.
Што да Гран-пры, дык ён адправіўся да аднаго з фаварытаў - "кніжнага" фільму "Адаптацыя". Стваральнікі "Быць Джонам Малкавічам" рэжысэры Спайк Джонс і Чарлі Каўфман зьнялі гісторыю пра самога Чарлі, які піша сцэнар па кнізе пра паляўнічага на архідэі. Усе былі ўпэўненыя: Нікалас Кэйдж, які сыграў Чарлі і ягонага брата Дональда, атрымае ўзнагароду як мінімум за маральныя і фізычныя перажываньні падчас здымкаў - але дзе ж там... "Лепшым" стаў Сэм Рокуэл, які сыграў у рэжысэрскім дэбюце Клуні "Споведзь небясьпечнага розуму". Галоўны герой, містэр Барыс, рэальны чалавек, вядомы ў Амэрыцы аўтар тэлешоў, па ўласным прызнаньні, меў яшчэ колькі падпрацовак - агент ЦРУ і наёмны забойца. Ідэальны сцэнар вымалёўваецца сам па сабе.
Самым заўважным эўрапейскім пераможцам стаў Патрыс Шэро, які прадставіў варажбіцкую "Ягоны брат". Ніхто і марыць ня марыў, што стваральнік "Інтыму", пазамінулага трохразовага пераможцы, атрымае "Мядзьведзя" зноў. Шэро ў шматлікіх інтэрвію неаднаразова паўтараў: "У мяне няма ніякіх шанцаў". Хаця тут можна было спрачацца з жывым клясыкам: масье "Ідэя эўрапейскага кіно" ніколі не хаваў, што яму ня ўсё адно, ці атрымае ён прыз на "Бэрлінале". "У мяне была дзіцячая рана, адчуваньне, што цягам 20 год мяне не прымаюць у кінасьвеце. І раптам аказалася, што прымаюць!"
"Ягоны брат" да геніяльнасьці просты: жыцьцё і сьмерць, два браты, сіла і слабасьць чалавека, рэальнасьць і нерэальнасьць. "Я спрабую зразумець рэчаіснасьць, - расказвае Шэро ў інтэрвію BBC. - Мне цікава, як хвароба можа зьмяніць жыцьцё чалавека, яго адносіны зь іншымі людзьмі, усе яго пачуцьці. Ня ў кожнага хапае сілаў змагацца з хваробай. Вядома ж, калі вы змагаецеся, то больш жывяце, і, мажліва, нават будзеце здаровымі, але ў маім фільме вядзецца пра тое, як малады чалавек, яркая асоба, робіць для сябе нечаканае адкрыцьцё - у яго няма такой сілы. Ён адкрывае для сябе сьвет уласнай слабасьці і пасыўнасьці. Жахліва.
Калі мы здымалі фільм, я пытаў у самога сябе: як бы ты адрэагаваў на падобную сытуацыю, што б рабіў на месцы хворага, ці хапіла б сілаў для барацьбы?
Адказу не было".

*Беларусь - нармальная (адносна, вядома ж, але ўсё ж такі) дзяржава з адпаведнымі атрыбутамі: ёсьць у нас багатыя і жабракі, бізнэсмэны і прастытуткі, сьвятыя і грэшнікі, панкі і гіпі, байкеры і клябэры, скінхэды і хіп-хопэры ды яшчэ шмат іншых. Толькі беларускіх модаў не было, няма і, баюся, яшчэ доўга ня будзе.*

***Чаму?***






# МОДЫ

## modern

Слава Бандарэнка

## тыя, якіх у нас не было

Мод - ангельскае слова, скарот ад modern (сучасны)





дызайн: vitaminv



**Мод** - ангельскае слова, скарот **ад modern (сучасны),** і да fashion як такой ніякага дачыненьня ня мае.

**Стыль жыцьця** модаў называецца, адпаведна, мадэрнізм (modernism). Што такое мадэрнізм, папулярна патлумачыў адзін зь яго ідэолягаў, лёнданскі журналіст **Пітэр Мідэн: "Гэта спроба чыстага жыцьця ў брудных умовах".**

...Брытанія напрыканцы **1950-х** гадоў перажывала пасьляваенны вытворчы бум: адкрываліся сотні прадпрыемстваў і фірмаў, якім былі патрэбныя маладыя мазгі. Аплачвалася такая праца някепска, прынамсі, юны мэнэджэр з рэклямнай агенцыі без праблемаў мог дазволіць сабе купляць дзіка дарагія амэрыканскія LP, фірмовыя шмоткі ў буціках, мог рэгулярна цягацца па клюбах. Клюбны бізнэс, дарэчы, знаходзіўся ў наўпроставай залежнасьці ад росквіту брытанскай эканомікі.

Такія вось 17-20-гадовыя хлопцы і дзяўчыны зь лёнданскіх прадмесьцяў, выхадцы са звычайных мяшчанскіх сем'яў, якія ўдзень парыліся ў душных офісах, увечары пачыналі весьці "чыстае жыцьцё ў брудных умовах" - і пакрысе ўсьвядомілі сябе як нешта адзінае. Маладзёны і маладухі назвалі свой сьветапогляд мадэрнізмам, а сябе - модамі.

**Адбылося гэта ў 1962 годзе. Праз два гады яны сталі нацыянальным фэномэнам.**

# hi, lambretta

***Такім чынам, пачнем з асаблівасьцяў тусоўкі - хто, як, калі.***

Група модаў называлася crew - як зараз каманды хіп-хопэрскіх райтэраў. На чале crew стаяў Top Mod - самы стылёвы, на агульную думку, і самы старэйшы па ўзросьце - звычайна яму было гадоў 25-27, яго ж называлі Ace the face. Далей ішлі проста Faces, то бок заўсёднікі розных тусовак, і Numbers - моладзь, якую так назвалі за любоў да спартовых кашулек з нумарамі на сьпінах. Юных 15-16-гадовых модаў, якія толькі-толькі ўваходзілі ў тусоўку і былі яе лягічным завяршэньнем, называлі Tickets ці Moddy Boys. (Трэба сказаць, што старыя ставіліся да моладзі досыць фанабэрыста - найвышэйшым шыкам лічылася мець свой уласны стыль (такіх называлі stylists), а моладзь збольшага капіявала старэйшых...)
Ну і нарэшце былі тыя, хто тусаваўся час ад часу ці яшчэ ня вырашыў, мод ён ці не - такіх пагардліва называлі Mids ці Mockers. Як бачыце, справа была закручаная вельмі сур'ёзна.

Ці не галоўным прадметам клопату сапраўднага мода быў яго зьнешні выгляд. Раскашэліцца на прыстойны прыкід, нагадаем, ён мог проста. Ясна, аблічча модаў вар'іравалася, але быў і такі стандарт, па якім іх можна было вылічыць за мілю.
Па-першае, прычоска. У хлопчыкаў - даволі кароткія валасы, што закрывалі вушы: гэта называлася crew cut, shag ці French cut; у дзяўчынак - экстрэмальны варыянт стрыжкі 1920-х, які называўся shingle cut, ці slope, - высока падабраныя ззаду валасы.
Па-другое, сам прыкід. У цёплыя поры году моды фарсілі ў тэнісках "Фрэд Пэры", названых у гонар пераможцы 11-га Ўімблдону (1930), джынсах "Левайс", замшавых ботах ці красоўках "Адыдас". Вэльвэт і замша ў любым выглядзе віталіся. Ну і канечне кашулькі з нумарамі, купленыя за 7 шылінгаў 6 пэнсаў ва ўнівэрмагу "Вулворт". Калі пачыналіся гідкія лёнданскія дажджы, трэба было нацягваць цёмна-зялёны "парк" - куртку з каптуром, скроеную па ўзоры амэрыканскай вайсковай формы. У адвароты "паркаў" моды звычайна ўшывалі 10-12 рыбалоўных кручкоў. Разьлік просты: бяруць цябе за лацканы перад бойкай - і прапорваюць сабе далонь.

У такім выглядзе моды хадзілі па Лёндане. Стоп, толькі не хадзілі: ці ня самая галоўная прыкмета пасьлядоўніка мадэрнізму - ягоны матаролер, ён жа скутэр. Тут было не да патрыятызму, і маладыя брытанцы абіралі Італію ў якасьці ўзорнай - фантастычныя "Іначэнці-Лямбрэта" і "П'яджа-Вэспа" адцянялі ангельскую стрыманасьць тысячаў модаў; дзякуй богу, для кіраваньня матаролерам кіроўчых правоў не патрабавалася, скутэры "елі" мінімум паліва (на галёне можна было праехаць 125 міляў), разганяліся да 70 міляў/г, лёгка паркаваліся і самае галоўнае - ня пэцкалі элегантныя нагавіцы жахлівымі масьлянымі плямамі! Сьпіс фаварытаў шасьцідзясятых узначальвалі "Лямбрэта-SX200" і "Вэспа-GS160" (праз пятнаццаць год моды выбралі сабе "Вэспа-Ралі-180" і "Лямбрэта-GP125/150").
Сапраўдны мод свой матаролер песьціў. "Лямбрэты" любоўна называлі lammy ці lamby, а ўсе матаролеры - scoot, hairdryer ці EX. На шынах модаўскіх скутэраў красаваліся белыя налепкі, на пярэднім шчытку - брытанскія сьцяжкі. Але галоўным атрыбутам цюнінгу былі храмаваныя люстэркі задняга віду. Летам 1963 у Англіі ўвялі закон, паводле якога на матаролеры магло быць толькі адно такое люстэрка. На наступны ж дзень на вуліцы Лёндану выехалі тысячы модаў на "вэспах" і "лямбрэтах", літаральна завешаных нелегальным атрыбутам. Звычайна колькасьць люстэркаў даходзіла да 6-8, часам - да 12-15.



Моды зараблялі свае немалыя фунты і гінэі, а ўвечары зьбіраліся ўсім crew і рушылі ў "правільныя месцы". Галоўнымі іх базамі былі лёнданскія "The Scene" и "Flamingo", дзе гралі самыя файныя The Who, The Kinks, The Small Faces, The Action, The Attack, The Eyes - а дыджэі круцілі дыскі зь любімай музыкай для ног - амэрыканскі соўл. Там можна было завіснуць на цэлую ноч, і называліся такія руханьні allnighter. Там жа прадавалі любімую модаўскую наркату - амфэтаміны (напрыклад, дурафэт і дэксэдрын, black bomber і French blues адпаведна). Такія наркотыкі можна было скрасьці ў сваіх мамашаў-хатніх гаспадыняў, ласых на ўсялякія антыстрэсавыя пігулкі. Ну а калі не было танцавальнага гумору і не хацелася глядзець любімую "Ready, Steady, Go!" па тэлеку, тады ўся crew усаджвалася на скутэры і... наперад, насустрач марскому ветру! Тры гадзіны хуткай язды па шашы - і замест душнага Лёндану - Брайтан, Маргет ці Клэктан.

## Mods vs. рокераў

Менавіта яны былі галоўнымі супраціўнікамі модаў. Уявіце сабе клясычнага мода і сёньняшняга байкера - рокеры выглядалі амаль гэтаксама.
Ім наканавана было быць у апазыцыі адзін да аднаго, бо яны былі занадта рознымі. Нашыя героі - толькі на скутэрах, рокеры - толькі на байках. Рокеры звычайна былі старэйшымі за модаў, працавалі ў "простых" месцах (зрэшты, і там плацілі някепска), апраналіся ў чорную скуру і бухалі ў шматлікіх пабах. Любілі рокеры весялуху: разагнацца ўночы, у паганае надвор'е да 100 міляў у гадзіну і пад музыку Элвіса, Эдзі Кокрана, Джына Вінсэнта гнаць па асфальце матухны-Англіі. Моды лічылі рокераў тупагаловымі гопнікамі, а тыя першых - афігелымі ад снабізму малалеткамі. Зрэшты, усе яны мелі рацыю. Кожны сваю.

У межах Лёндану барацьба ішла па-джэнтэльмэнску: моды заходзілі ў пабы, рокеры - у модаўскія кафэшкі, і ўсе заставаліся цэлымі. Зазвычай фронт дзеяньняў у працоўныя дні разгортваўся вакол самага сьвятога: нехта падсыпаў цукар у байкаўскія бэнзабакі, а хтосьці не адмаўляў сабе ў задавальненьні накрэмзаць чым-небудзь вострым "queer" (підар) на шчытку "лямбрэты". Крыўды накапліваліся да ўік-энду, калі можна было сабрацца ў нейкім прадмесьці блізу Лёндану crew і бандзе рокераў, каб палупіцца да крыві.
Дзіўна, што менавіта нашыя героі пачыналі бойку першымі: яны даставалі нажы з выкіднымі лёзамі, маленькія малаткі і з крыкам "We are mods!" кідаліся на барыгаў у скуры. Што самае прыкольнае, поруч з хлопцамі біліся і дзяўчаты!.. Рокеры ў якасьці зброі выкарыстоўвалі жалезныя ланцугі, але іх дамы ў разборкі ня ўмешваліся.

Кульмінацыяй такіх бітваў сталі падзеі 17 траўня 1964 г. Тады ў Брайтан зьехалася процьма "байцоў" з абодвух бакоў, але модаў, якія і справакавалі першыя сутычкі, было нашмат болей. Паступова бойка перамяшчалася з пляжу на вуліцы гораду, дзе паліцыя ўзяла "цёпленькімі" каля 50 чалавек. На Вялікдзень таго ж 1964 у Клэктане адбылося нешта падобнае - на гэты раз зброяй сталі пляжныя парасонікі, і арыштаваных было амаль у два разы болей. Ангельцы, якія любяць рабіць з усякага гаўна культ, зрабілі гэта і з модамі: па месцах баявой брайтанаўскай славы, што стала прычынай судовага працэсу 1964 году (пра яго пісалі ўсе мясцовыя газэты), існуе адпаведны турмаршрут. А ў буціку "Jump The Gun" вы можаце набыць "байцоўскую" экіпіроўку сярэдзіны 60-х - акурат у такой пралівалі кроў моды.

## main

Росквіт модаўскай культуры прыйшоўся на 1966 год, калі мадэрнізм стаў мэйнстрымам - у моды запісвалася апошняя шаўка. Потым рух стаў згасаць. На зьмену модам прыйшлі больш актуальныя гіпі. Праўда, малалетнія моды-"тыкеты" ўсё-ткі далі пачатак яшчэ адной новай зьяве. Напрыканцы 1969 яны пачалі галіць свае галовы, а замест звыклага "Адыдасу" начапілі бахілы "Доктар Мартынз" - так зьявіліся скінхэды, якія да сярэдзіны 1970-х ня мелі ніякага дачыненьня ні да нэанацызму, ні да расізму і ад наступных генэрацыяў скіноў аддзялялі сябе ёмістым прыдомкам trad. Мод-адраджэньне адбывалася не аднойчы: у 1978 годзе на лёнданскіх вуліцах зноў зьявіліся "вэспы" і "лямбрэты", асядланыя элегантнымі хлопчыкамі ў пінжачках і сонечных акулярах. Другое пакаленьне модаў групавалася вакол гурта The Jam, але нічога новага: да 1981 мадэрнізм зноў перастаў быць актуальным, саступіўшы месца "новым рамантыкам", "руд бойз", а там і "готыкам". Трэцяе адраджэньне мадэрнізму - гэта 1993 год і брытпопэры. Хоць прыхільнікі "чыстага" мадэрнізму незадаволена бурчаць: гэта, маўляў, ужо эклектыка, ня больш як настальгія па залатых дзяньках 60-х. Тым часам нэа рэгулярна ладзяць зьлёты, скутэрныя трыпы па культавых месцах, дзе, трэба думаць, і праводзяць ідэалягічныя дыскусіі наконт чысьціні сваіх шэрагаў.

## самасьць

"Моды - гэта тое самае, што і беларускія савецкія стылягі", - большай лухты і прыдумаць немагчыма. Нашыя былі дзецьмі высокапастаўленых чыноўнікаў, жылі на татавыя грошы і каталіся на машынах. Ніякай ідэалёгіяй, ніякімі негалоснымі запаветамі ад іх і ня пахла. Па сутнасьці, стылягі былі простымі спажыўцамі, якія сьлепа капіявалі заходнюю моду свайго часу. Нічога такога ў мадэрнізме не было. Моды самі выпрацавалі ўласную манэру апранацца і паводзіць сябе, самі зараблялі грошы, дый стаялі яны, трэба думаць, у авангардзе брытанскай поп-культуры 60-х. Акрамя таго, не забываймася на мідэнаўскі афарызм: "Мадэрнізм - гэта спроба чыстага жыцьця ў брудных умовах". Звычайныя хлопчыкі і дзяўчынкі, якія вырасьлі на ўсім гатовым у муніцыпальных дамах, раптам пачыналі крывіць насамі, калі ім прапаноўвалі стандартную брытанскую будучыню: служба, кар'ерны рост, уласны дамок з садком, машына, жонка, дзеці. Яны стваралі чысьціню сярод навакольнага бруду. І ў іх гэта атрымлівалася.

Мы? Так, няма, але нам гэта патрэбна! Нам патрэбныя такія хлопчыкі і дзяўчынкі, якія больш за ўсё на сьвеце баяцца выпацкаць свае нагавіцы машынным маслам. Яны будуць расьці, абурацца сваімі сумнымі бацькамі і сыходзіць у сваё нестандартнае жыцьцё...

Пакуль беларускіх модаў няма. Ёсьць асобныя піжоны, але якая ідэалёгія іх аб'ядноўвае? Чыстае жыцьцё ў брудзе? Тупыя забаўкі, ад якіх патыхае сама мала кепскім тонам! Ды і расьлі яны зусім не ў звычайных працоўных сем'ях на ўскраінах.
Астатнія... Стандартны набор: кар'ерны рост, машына, кватэра, жонка, дзеці - тое, ад чаго любы мод званітаваў бы на месцы. Спадзяюся, ты таксама.

# пацалунак

## толькі пачатак

**Як гучыць старажытная музыка пацалункаў на мовах народаў сьвету – чытайце варыянт беларускіх інтэрпрэтацыяў у выкананьні Тані Сола.**





## ДА ТАГО

Былі часы, калі пацалунак зьяўляўся зусім ня сымбалем каханьня і прыязнасьці, як мы прывыклі. Вусны, як і малочныя залозы, напачатку былі другасным органам мацярынства, і толькі зь цягам часу ператварыліся ў аб'ект эратычнага жаданьня.
Яшчэ Darwin, вывучаючы сваіх уюркоў і іншых перыстых-калматых, прыйшоў да высновы, што пацалунак па сваім паходжаньні - не прыроджаны атрыбут дзіцяці, ён - паўтарэньне акту смактаньня, акту спажываньня малака маткі.
Мяркуюць, што пацалунак паступова разьвіўся са старажытнага звычаю карміць дзяцей, як дагэтуль робяць птушкі, - з рота ў рот. Так што спачатку дотык вуснамі да вуснаў быў спосабам перадачы ежы.
Пацьверджаньне гэтаму знайшлі навукоўцы, якія вывучалі народы, што знаходзяцца на стадыі першабытнага ладу. Вывучыўшы сэксуальнае жыцьцё аўтахтонаў-новазэляндцаў, самалі, эскімосаў і іншых плямёнаў, вучоныя мужы выявілі, што сымбалямі каханьня і сяброўскай прыязнасьці ў першабытных выступалі не пацалункі: можна было панюхаць каханага (як рабілі плямёны, што жылі на высотах Чытаганг), прыкласьці нос да шчокаў адзін аднаго і моцна ўцягнуць у сябе паветра (племя чытальтонгаў), залезьці пад коўдру і там церціся насамі, выдаючы пры гэтым нешта кшталту рохканьня і ўцягваючы носам паветра (новазэляндцы). Паспрабуйце - далібог, у гэтым нешта ёсьць.
Нават у творчасьці старажытных грэкаў Гамэра і Гесіёда адно і тое ж слова выкарыстоўвалася для пазначэньня вуснаў, жаночых грудзей і пацалунку і абазначала любоў маці. Гамэр нічога ня піша пра вусны, грудзі і пацалункі Алены і Брызеіды ў "Іліядзе" ці Пэнэлопы і Калліпса ў "Адысеі", бо не атаясамлівае гэтыя органы і працэсы з эротыкай.
У старажытных індыйскіх паэмах "Махабхарата" - "Рамаяна" ніколі ня ўзгадваецца эратычны пацалунак, а толькі пацалунак маці.
Цывілізацыя прымусіла чалавека прыкрыць цела, паклапаціцца пра ўласную чысьціню. Жанчына згубіла свой характэрны пах, схавала пад адзеньнем свае полавыя прыкметы. Таму, лічаць некаторыя дасьледчыкі, тыя часткі жаночага цела, якія былі прызначаныя для выяўленьня інстынктаў маткі і якія прыцягвалі зрок і выклікалі жаданьне датыкнуцца ў мужчыны (вусны і грудзі), ператварыліся ў органы яскрава эратычныя.
І вось - падзякуй сасьпеўшым для гэтага продкам! - у індыйскіх трактатах пазьнейшага паходжаньня зьяўляюцца апісаньні шматлікіх варыянтаў пацалункаў мужчыны і жанчыны. І пачалося ...

## ТЭХНІКА

Самыя лепшыя інструкцыі па карыстаньні ўласнымі і партнэрскімі вуснамі былі падрыхтаваныя ўжо згаданымі індыйцамі. Наўрад ці знойдзеш канцэптуальныя адрозьненьні старажытнаіндыйскіх пацалункаў ад тых, гукі якіх чутныя сёньня ў прыцемках кінатэатраў, клюбаў, прыбіральняў і пад'ездаў. За мінулыя стагодзьдзі ў чалавека не зьявілася ніякіх дадатковых органаў кшталту шчупальцаў, хабатку ці рыльца, якія можна было б задзейнічаць у цалаваньні.
Аказваецца, пацалункі - гэта зьява, якая добра паддаецца клясыфікацыі і сыстэматызацыі.
Шэдэўральны з пункту гледжаньня мэтадалёгіі трактат пра каханьне "Галінка пэрсіка" падзяляе ўсе пацалункі (зразумела, апрача пацалунку ў лоб нябожчыка) на дзьве катэгорыі: пацалункі роту і пацалункі цела. У сваю чаргу пацалункі роту дзеляцца па сваім прызначэньні і выкананьні на **німту** - проста пацалунак, **сам'яну** - пацалунак з выкарыстаньнем языка, і **авакумбану** - з дапамогай пальцаў. Хаця **німта** названая пацалункам, ня ўсё так проста. Ініцыятыва пры яе выкананьні звычайна належыць хлопцу: напрыклад, ён можа зрабіць **хвалюючы** пацалунак - пацерціся вуснамі аб вусны каханай. Толькі ня трэба церціся аб каханую так, быццам у цябе ўскочыў герпэс, які бесьперапынна сьвярбіць, бо можна распаліць сяброўку да такой ступені, што яна лясьне табе па пысе.
Можна наладзіць **барацьбу ротаў** - дзеля гэтага хлопец павінен злучыць свой напалову адкрыты рот з такім жа ротам дзяўчыны, падчас чаго прапануецца ссаць, церці і кусаць адзін аднаго. Відовішча не для слабанэрвовых, але для неабыякавых...
Хлопец можа справакаваць **гульлівы** пацалунак - хваляваць сваю дзяўчыну лёгкім пакусваньнем яе вуснаў. Асабліва заўважце: "лёгкім" і "пакусваньнем", а не адкусваньнем. Дзяўчына, дарэчы, таксама можа праявіць ініцыятыву і падарыць свайму абраньніку **цнатлівы** пацалунак. Для гэтага ёй абавязкова трэба пачырванець ад сораму і датыкнуцца сьціснутымі вуснамі да вуснаў хлопца.

Рві струны жыцьця і пераходзь да **сам'яны**. Пацалунак з выкарыстаньнем языка - зусім не францускі: усё было прыдумана і неаднаразова апрабавана нашмат раней за галаў!
Абліжы яе вусны - гэта **распаляючы** пацалунак. Увядзі язык у яе рот і круці ім там - падары каханай **млын**. Дакраніся да яе языка сваім - і зрабі **пацалунак языкоў**, датыкніся языком да яе нёба **вытанчаным** пацалункам, сьлізгані па яе зубах і ўвядзі свой язык за яе шчаку - вось **царскі** пацалунак...
А ты, панна, ап'яні яго **жалячым**: пяшчотна і сароме\u044eючыся смакчы вусны свайго каханага і раптам на імгненьне ўцісьні ў яго рот свой язык - адразу адхініся, робячы выгляд, што сама спужалася свайго ненаўмыснага ўчынку...

Што далей? Хм... Пры правільным выкананьні пазначаных вышэй цялесных практыкаваньняў самы час пераходзіць да пацалункаў цела. Вось яны, апрабаваныя часам і мільярдамі закаханых спалучэньні вуснаў і целаў.
**Жарсны** пацалунак - ссаньне і адцягваньне цела. Так цалуюць спалучэньне сьцёгнаў, рук, саскі і звод грудзей (вядома, не сваіх). **Цісньучы** пацалунак - ссаньне і прыцісканьне да цела твару. Так цалуюць шчокі, плечы і саскі грудзей. **Пяшчотны** - шморганьне вуснаў па целе. Так цалуюць сьцёгны і шыю.
**Ліжучы** - дотык да цела языком - пацалунак вушэй, носу, броваў... Але ці варта абмяжоўвацца лякальнай геаграфіяй каханага цела?

## ПАСЬЛЯ

... На месцы шматкроп'я знаходзіцца апісаньне наступных разьдзелаў трактату, прысьвечаных ужо не пацалункам. Але ж размова па-ранейшаму менавіта пра іх. Мудрыя індыйцы прыводзяць апісаньне пацалункаў, рамантычна названых **пацалункамі заціхаючай жарсьці** - гэта пацалункі пры дапамозе пальцаў. Першы - хлопец сьціскае пальцамі вусны дзяўчыны і такім чынам цалуе іх (**задавальненьне ад пупышкі**). Другі спосаб: хлопец адцягвае ніжнюю губу дзяўчыны і ўводзіць ёй за шчаку язык - гэта **пялёстак**. Трэці варыянт - хлопец разводзіць пальцамі вусны дзяўчыны і цалуе яе ў зубы (**абрываньне пялёсткаў**).

Прачытаўшы гэтыя радкі, не адкідайце часопіс. Пацалунак - не абстрактны канструкт, а жывое яскравае стварэньне сумесных думак, мараў, пачуцьцяў (вуснаў, языкоў, пальцаў). Ён узьнікае на перакрыжаваньні часу, прасторы і двух асобаў і жыве да таго моманту, пакуль жыве гэтае перакрыжаваньне.
Спалучайце тэорыю з практыкай, практыку з тэорыяй і памятайце, што правілы і схемы існуюць якраз дзеля таго, каб іх парушаць. Можа, вы з каханым чалавекам вынайдзеце новую тэорыю ці ў адзін цудоўны вечар пры сьвячах на падлозе абвергнеце ўсё тое, што склалася задоўга да вас і прымалася як ісьціна. "Жарсны пацалунак зьмешвае правілы", - кажа "Галінка пэрсіка".

# атрута

## асьцярожней з гэтымі штукамі

**Цікавасьць чалавецтва да замоваў, зёлак і інш. стымулятараў лібіда – ну там насарогаў рог, вустрыцы – можа быць параўнаная хіба зь першабытным паляўнічым інстынктам. Невынішчальна! Тым болей што выкарыстаньне тых рэчываў ёсьць натуральным варыянтам задавальненьня ўласнага самалюбства ды комплексу ўладара. Насуперак чалавечай натуры – прымусіць і падпарадкаваць сваёй волі. Хто адмовіцца быць свабодным кіраўніком амуравай стралы? У чаканьні вясновых зьменаў гарманальнага балянсу – практыкум па т.зв. афрадызіяках.**

тэкст: gryzuny

*Афрадызіякі /гр. Aphrodisiac/* - рэчывы, якія нібыта павінны стымуляваць сэксуальнае жаданьне /Grand Larousse Universel/. Асьцярожнасьць у фармулёўках цалкам зразумелая. Шматлікія з "прываротных" сродкаў у стане адправіць аб'ект пажадлівасьці да праайцоў. МЭНСТРУАЛЬНАЯ КРОЎ адвеку лічылася самым моцным сродкам у любоўнай магіі - маўляў, калі ёю памазаць за вухам каханага, пакуль ён сьпіць, той пачынае шалець ад пажады. На самой справе яна ёсьць атрутным рэчывам, якое прыводзіць да моцнай алергічнай рэакцыі (магчымы й лятальны фінал). У мінулым годзе ў Рэймсе (Францыя) адбыўся суд над шаснаццацігадовай дзяўчынай, якая з мэтай прычараваць аднаклясьніка падсыпала яму ў кактэйль "нагаворныя зёлкі". Апошнія яна прыгатавала з уласнай мэнструальнай крыві, серы ад запалак і спаленых лабковых валасоў. Хлопец месяц праляжаў у рэанімацыі з моцным атручаньнем. Недаробленую чараўніцу прысудзілі да 4 месяцаў турмы і штрафу ў 7.000 эўра.

У мінулым годзе ў Рэймсе (Францыя) адбыўся суд над шаснаццацігадовай дзяўчынай, якая з мэтай прычараваць аднаклясьніка падсыпала яму ў кактэйль "нагаворныя зёлкі". Апошнія яна прыгатавала з уласнай мэнструальнай крыві, сэры ад запалак і спаленых лабковых валасоў. Хлопец месяц праляжаў у рэанімацыі з моцным атручаньнем. Недаробленую чараўніцу прысудзілі да 4 месяцаў турмы і штрафу ў 7.000 эўра.

Сьпіс небясьпечных глупстваў можна працягваць бясконца. Так у павер'ях аб МАНДРАГОРЫ спляліся відавочная выдумка і вельмі адносная праўда. Знакамітая расьліна ўпершыню згадваецца ў Старым Запавеце пад габрэйскай назвай "дудаім". Яе ўласьцівасьці былі вядомыя яшчэ Гіпакрату. У Сярэднявеччы мандрагора была асноўным кампанэнтам для прыгатаваньня разнастайных любоўных зёлак. Аднак знайсьці расьліну было вельмі складана. Паводле паданьняў, мандрагора вырасьце толькі там, дзе на зямлю ўпадзе спэрма шыбеніка (у пакаранага расслабляюцца цягліцы, і зь семяньнікоў праліваецца вадкасьць). Акрамя таго, лічылася, што корань гэтай расьліны, які нагадвае фігуру чалавека, у момант выкапваньня страшэнна ўскрыквае, і шукальнік праз гэта памірае. Таму шукалі мандрагору з дапамогай магічных пасаў і чорнага сабакі (які й паміраў). У наш час мандрагору прывозяць зь Ірану, Судану і Саудаўскай Арабіі (там да сёньня дазволеныя павешаньні). Кошт аднаго плоду дасягае ў Эўропе 5.000 эўра. Рэчаіснасьць жа больш як празаічная. Расьліна сям'і пасьлёнавых Mandragora Officinarum утрымлівае атрапін і скапалямін - атрутныя алькалёіды, якія выклікаюць узбуджэньне нэрвовай сыстэмы і галюцынацыі. У сучаснай мэдыцыне атрапін выкарыстоўваецца як асноўнае проціядзьдзе пры атручаньні марфінам, а скапалямін уваходзіць у склад прэпаратаў для лячэньня Паркінсона. Адпускаюцца яны выключна па рэцэпце. Так што Мінздраў папярэджвае...

Слава ШПАНСКАЙ МУШКІІ трымаецца цягам некалькіх тысячагодзьдзяў. Яшчэ за 100 год да н.э. жонка рымскага імпэратара Аўгуста, Лівія, падсыпала парашок са шпанскай мушкі ў ежу членам імпэратарскай сям'і, каб у далейшым выкарыстоўваць іх сэксуальнае шаленства ў сваіх інтрыгах. А праз сямнаццаць стагодзьдзяў масье дэ Сад такім жа чынам блазнаваў над прастытуткамі ў бардэлі: жанчыны, звар'яцелыя ад пажады, самі кідаліся на вуліцу ў пошуках мужчынаў. Згодна з уяўленьнямі сучаснай навукі, Lutta Vesicatoria - шпанская ці, дакладней, гішпанская мушка - сапраўды ў стане выклікаць моцнае сэксуальнае ўзбу-джэньне. У крыві гэтага насякомага ўтрымліваецца кантарыдзін, які, абмінаючы пячонку, раздражняе мочаспускальны канал, што прыводзіць да спэцыфічнага "сэксуальнага сьвербу" - прыліву крыві да геніталіяў. Але ёсьць вялікае АЛЕ. Кантарыдзін - гэта сапраўдная атрута, якая згубна ўзьдзейнічае на арганізм чалавека нават у min-дозах. Між тым шпанская мушка па-ранейшаму выкарыстоўваецца ў якасьці любоўнага зельля, але ў такіх малых дозах, што вынік дасягаецца ў асноўным праз саманамову.

Сярод "любоўных" стымулятараў існуюць і штучныя. ЭКСТАЗІ - пігулка, што дазваляе танчыць усю ноч і пашырае межы пачуцьцёвага ўспрыманьня, - дае незвычайную лёгкасьць у наладжваньні адносінаў нават з самым непрыступным аб'ектам. Фанаты сьцьвярджаюць, што з дапамогай "наркотыку абдымкаў" магчыма абудзіць у кожным чалавеку сэксуальную энэргію, якая робіць сэкс натуральным, жаданым і неабходным. Насамрэч МДМА (мэтылэндзіаксымэтамфэтамін) за кошт стымуляцыі цэнтральнай нэрвовай сыстэмы робіць пачуцьці больш яркімі, а ўнутраныя забароны - бессэнсоўнымі. Паводле скептыкаў, нават аднойчы прыняты экстазі можа прывесьці да сур'ёзных псыхічных зьменаў. Наркотык стымулюе ўтварэньне ў мазгах сэратаніну - гармону выдатнага настрою, - але адначасова хутка спальвае тое рэчыва. Праз 12 гадзінаў пасьля ўжываньня экстазі сьвята жыцьця зьнікае. Пачынаюцца шэрыя будні.

Вядомыя і больш бяскрыўдныя сродкі. Напрыклад, ТРУФЭЛІ - падземныя грыбы, якія ўжывалі яшчэ Казанова і Людовік XIV. У старажытнагрэцкіх трактатах труфэлі фігуруюць як наймацнейшы сродак узбуджэньня. На самой справе гэта звычайныя грыбы, толькі што падземныя. Але гэта з хімічнага гледзішча. Эфэкт труфэляў заснаваны хутчэй на іх рэпутацыі стоадсоткавага сэксуальнага стымулятара. Магчыма, узбуджае таксама і кошт грыбоў: труфэлі не культывуюцца, шукаюць іх з дапамогай парсючкоў, таму цана ў залежнасьці ад краіны плавае ад $700 до $4.000 за кг.

А зараз - усім вядомыя ВУСТРЫЦЫ. Гэтыя малюскі зьяўляюцца сапраўдным сымбалем пачуцьцёвых уцехаў. На тэму іх неабсяжнага патэнцыялу не выказваўся толькі лянівы (кажуць, магістар Джакама Казанова зьядаў кожны дзень па 50 шт.). Нават у самім працэсе каштаваньня вустрыцаў і ў іх выглядзе ёсьць нешта двухсэнсоўнае. Наяўнасьць у вустрыцах цынку, які грае важную ролю ў працэсе спэрматагенэзу - бясспрэчны факт. Але да сэксуальнага ўзбуджэньня той ня мае ніякіх адносінаў. Sorry :(

МАРСКІЯ ПАЧВАРЫНЫ, таксама як і вустрыцы, лічацца найэфэктыўнейшымі стымулятарамі сэксуальнага жаданьня. Старажытнарымскі літаратар Апулей у II ст. да н.э. ледзь ня быў асуджаны за тое, што ажаніўся з багатай удавой з дапамогай крывадушнага падману - рэгулярна частаваў даму каракаціцамі, амарамі й іншымі глыбакаводнымі жыхарамі. Згодна з паданьнямі, такім жа чынам Вэнэра падтрымлівала "незгасальны агонь" у сваім міталягічным мужыку Вулкане. А зусім рэальны кароль Англіі Генрых I увогуле памер ад перадозу: аб'еўся міногамі. На самой справе, як і вустрыцы, морапрадукты - усяго толькі лёгкая і прыемная ежа, багатая на бялкі і каштоўныя мікраэлемэнты. Ня болей.

У сьпісе расчараваньняў чалавецтва вылучаецца СЭЛЬДЭРЭЙ, што з даўніх часоў лічыўся цудадзейным сродкам. У шматлікіх народаў існаваў звычай вешаць сельдэрэй над ложкам маладых дзеля распаленьня жаданьня. Мадам Пампадур для падтрымкі сэксуальнага запалу Людовіка XV карміла яго супам зь сельдэрэю, а сама аддавала перавагу сельдэрэю з шакалядам ці ў выглядзе салаты зь яблыкамі ды грэцкімі арэхамі. І добра рабіла! Бо ў ім утрымліваецца вялікая колькасьць каштоўных рэчываў, якія стымулююць выраб полавых гармонаў, спрыяюць сэксуальнаму даўгалецьцю і ўвогуле амаладжэньню арганізму. Аднак сельдэрэй не аказвае імгненнага ўзбуджальнага эфэкту. Нават калі зьесьці цэлы кіляграм.

Водар экзатычнай кветкі ІЛАНГ-ІЛАНГ ёсьць асновай магнэтычнай прыцягальнасьці самай сэксуальнай парфумы мінулага стагодзьдзя Chanel №5. Пахі аказваюць на нас вельмі моцнае ўзьдзеяньне: яны непасрэдна ўплываюць на самую "старажытную" структуру галаўнога мозгу - лімбічную сыстэму, якая адказвае за нашыя першародныя пачуцьці і эмоцыі. Менавіта на гэтым заснавана дзеяньне пахучых стымулятараў (язьміну, нэролі, пачулі, ірысу, касіі, ляванды), якія выпускаюць у выглядзе эфірных маслаў. Зь іх дапамогай можна зрабіць сапраўдны эратычны масаж, прыгатаваць ванну для расслабленьня ці стварыць вакол сябе аўру сэксуальнай прывабнасьці.

Калі ўжо чапаць тэму водараў, дык нельга абмінуць пах ПОТу. Так-так. На Сыцыліі існуе гэткі вар'яцкі звычай: юнак, які прагне ўвагі ганарлівай сыцылійкі, дзейнічае наступным дзедаўскім мэтадам: прапітвае хустку потам з уласнай прамежнасьці (!) і зьмяшчае яе (хустку) у нагрудную кішэню. Пасьля чаго застаецца толькі запрасіць дзяўчыну на танец. Гэтае негігіенічнае шаленства насамрэч ня цалкам пазбаўлена сэнсу. Мужчынскі пот утрымлівае андрасцэрон - фэраман, які зьяўляецца сэксуальным стымулятарам і моцна ўплывае на жанчынаў. Сёньня асабліва прасунутыя касмэтычныя фірмы выпускаюць на аснове фэраманаў спэцыяльныя сродкі, з дапамогай якіх кожная жынчына ў стане адчуць сябе сэкс-бомбай.

14 САКАВІКА 19.00

ЛЕГЕНДА АЙЧЫННАГА РОКУ

# ULIS

ЗАСЛУЖАНЫ ВАНДРОЎНІК БЕЛАРУСІ

СОЛЬНЫ КАНЦЭРТ

Палац культуры Тэкстыльшчыкаў (Маякоўскага, 129)





## Антаніёні, Мікелянджэла

29 верасьня мінулага году сьвет з помпай адзначаў 90-годзьдзе легендарнага майстра. Зараз АМ разьбіты паралюшам і ня можа нават размаўляць, але яго фільмы хвалююць гэтак жа, як паўстагодзьдзя таму.

Ён нарадзіўся ў правінцыі Фэрара, якую пасьля не аднойчы апісваў у сваіх эсэ. Здымаў спачатку дакумэнтальныя каротка-мэтражкі, якія цэнзуравала фашысцкая Італія, а пасьля падзеньня Мусаліні - ралявое кіно.

Першыя фільмы - "Кроніка аднаго каханьня " (Cronaca Di Un Amore, 1950), "Дама без камеліяў" (La Signora Senza Camelie, 1953), "Сяброўкі" (Le Amichie, 1955) - прайшлі амаль незаўважанымі. Для Мікелянджэла гэта быў пэрыяд навучаньня ў клясыкаў нэарэалізму. Вядомасьць прынёс яму "Крык" (Il Grido, 1957) - гісторыя рабочага, які пасьля безвыніковых спробаў кудысь прыткнуцца скончыў жыцьцё самагубствам. Пасьля АМ зьняў знакамітую "буржуазную тэтралёгію" - фільмы "Прыгода" (L'Awentura, 1959), "Ноч" (La Notte, 1960), "Зацьменьне" (L'Eclisse, 1962) і "Чырвоная пустэча " (Il Deserto Rosso, 1964), трыюмф якіх назаўжды сьцьвердзіў рэжысэра ў пяцёрцы вядучых майстраў ралявога кіно.

У гэтых стужках АМ здымаў сваю сяброўку Моніку Віці. Роля ў яе па сутнасьці была адна і тая ж - напаўабыякавая-напаўпалкая дзяўчына, якая балянсуе на мяжы нэрвовага зрыву; ранейшыя адносіны сябе вычарпалі, новыя завесьці няма сілаў і/ці жаданьня; вакол жудасны ў сваёй маўклівасьці і пустэчы індустрыйны пэйзажык; вялікія паўзы, рэдкія фразы, кадар трымаецца на поглядзе, адзінай рэпліцы, асьвятленьні.

У 1966-м зьявіўся новы шэдэўр, ён жа - самы касавы фільм АМ, які сабраў у пракаце 40 млн. даляраў, - "Фотапавелічэньне" (Blow-Up), зьняты ў Лёндане з акторамі-ангельцамі. Вельмі прыгожыя, загадкавыя і містычныя напаўтрызьненьні пра шоўбіз і забойства, пра каханьне, якое так і не пачалося, і пра каханьне, якое паміраe, пра ўладу фантазіі над рэальнасьцю. Пачынаючы ад гэтай карціны АМ вялікую ўвагу надае саўндтрэкам да фільмаў - яны заўжды вельмі дакладна адпавядаюць свайму часу. У "Фотапавелічэньні" гэта джаз Хэрбі Хэнкака, псыхадэлічная клюбная група Tomorrow і клясыкі раньняга хэві-року The Yardbirds з Джэфам Бэкам і Джымі Пэйджам.

Наступны фільм "Забрыскі-Пойнт" (Zabriskie Point, 1969) дагэтуль культавы сярод старых і маладых гіпозаў. Зноўку зьнешне простая і зацягнутая гісторыя пра юнака і дзяўчыну, пра вар'яцкую Амэрыку канца 1960-х. Саўндтрэк - варта ўзгадаць хаця б Pink Floyd. І ашаламляльныя, клясычныя кадры з выбухамі, якія пасьля парадыявалі ўсе, каму не лянота - ад Разанава ў "Невероятных приключениях итальянцев в России" да Фэтбой Сьліма ў "Rockafeller Scank".

Эпоха панаваньня АМ над розумамі і душамі скончылася разам з 60-мі. Яго манэрная, нетаропкая, тонкая і сумная стылістыка, здавалася, памерла разам з часам, які яна адлюстроўвала. Дый наступныя працы ўжо не дацягвалі да ўзроўню "Зацьменьня" ці "Забрыскі". У 1994 АМ атрымаў ганаровы "Оскар" за сукупнасьць сваіх заслугаў. Але, як аказалася, зарана: у наступным годзе цяжка хворы, нямы, разьбіты паралюшам рэжысэр з дапамогай Віма Вэндэрса паставіў адзін з самых прыгожых і мудрых сваіх фільмаў - "За аблокамі" (Au Dela Des Nuages, 1995). Гэта падвядзеньне вынікаў (у фільме знойдзеце ледзь заўважныя цытаты з "Ночы" і "Зацьменьня"), гэта бэнэфіс выдатнага Джона Малкавіча, гэта музыка U2 і Браяна Іно, гэта вар'ятка ў марах Сафі Марсо, гэта Эўропа - Парыж, Партафіна, радзіма майстра туманная Фэрара... І, безумоўна, непаўторныя, акварэльныя навэлы пра ўзаемаадносіны мужчыны і жанчыны.

*Слава Бандарэнка*

## "Альтэрнатыва" Ў Менску

Адно з ключавых (модных і актуальных) словаў для разуменьня таго, што адбывалася ў Менску цягам апошніх шасьці андэрграўндных гадоў дваццатага стагодзьдзя.

Пачатак моды на А-насьць заклаў "А-ны тэатар" - месца больш чым культавае для менскіх актывістаў. Паўсталы ў піку зашмальцаваным і кансэрватыўным поглядам на сучасную драматургію, тэатар здолеў ня толькі сабраць вакол сябе таленавітых рэжысэраў і актораў. Упершыню ў Менску тут быў створаны цэнтар сучаснай беларускай культуры. Заўважым, культуры, А-най саўковай, якая дагэтуль квітнела і буяла на прасторах блакітнавокай радзімы. Бясконцыя выставы, канцэрты, сэйшэны, электронныя вечарынкі, творчыя сустрэчы, штудыі і да т.п. праходзілі ў "А-ным тэатры" з пэрыядычнасьцю, што зараз і ня сьніцца ніводнаму "клюбу". На думку Лёшы I Feel You, менавіта гэтае месца небеспадстаўна прэтэндавала на званьне першага і сапраўднага клюбу, дзе зьбіралася "прасунутая" аўдыторыя; атмасфэра, людзі, антураж - усё гэта ў выніку "з трыбухамі пайшло за 700 даляраў", па выразе аднаго з былых актораў "А-нага". Па чутках, менскі "Прыёрбанк" займеў патрэбу ў някепскім памяшканьні.

Так ці інакш, а ідэі стварэньня А афіцыёзу курсіравалі і дабіраліся да розумаў дзейных і амбітных. У 1997 годзе паўстае незалежны прамоўтэрскі цэнтар "Беларуская музычная А" (БМAgroup), асноўная мэта якога - папулярызацыя (фактычная мэйнстрымізацыя) беларускай А-най музыкі, перш за ўсё беларускамоўнага року, і стварэньне належных для яе разьвіцьця ўмоваў. Нягледзячы на ўзрост "бацькоў" БМA-group - 16-17 гадоў, вынікі, дасягнутыя толькі за год, былі ашаламляльныя: першы зборнік альтэрнатыўнай музыкі "Вольныя танцы. Слухай сваё" (першы беларускамоўны рэліз А-най музыкі, выдадзены масавым накладам), увядзеньне ва ўжытак сьлёгану "Слухай сваё", прамоўтэрства маладых камандаў і інш. Далей быў 6-гадовы рост, і зараз БМAgroup - усё яшчэ жывая! - адзіны ў краіне так і не зарэгістраваны лэйбл, які выдае рэлізы незалежнай музыкі, арганізоўвае канцэрты і інш.

Менскі клюб "А" (раней "Резервация", пазьней - "А-клуб", "База", зараз "NC") быў адным зь месцаў правядзеньня канцэртаў сэрыі "Вольныя танцы" і іншых "нефарматных" мерапрыемстваў. Ля вытокаў стварэньня "А-га клюбу для нефармальнай моладзі" стаяў Дзяніс "Лёндан" Крыўцоў і яго натхняльнік, чалавек-легенда Кім Хадзееў. У адрозьненьні ад іншых танных месцаў клюб "А" досыць пасьпяхова сумяшчаў ідэі "незалежнай" музыкі і камэрцыі. Адзінае, што пастаянна перашкаджала Лёндану і таварышам - гэта спроба дзейнічаць у стылі "і вашым і нашым", то бок супрацоўнічаць з А-нымі камандамі, а зь іншага боку - пры першых пэратурбацыях быць гатовым здаць ідэі "нефармату" канфармісцкі настроеным арэндадальнікам. Зрэшты, апошняе - адна з прычынаў таго, што беларуская А так і ня стала шырока прызнанай і паважнай зьявай, фэномэнам, вартым увагі незаангажаваных абываталяў.

*Андрэас Копыс*

# CAMELOT

ПАКІНЬ СВОЙ СЬЛЕД

**КОЖНЫ, ХТО ХОЦЬ КРЫХУ ЦІКАВІЦЦА МОЛАДЗЕВАЙ МОДАЙ У НАШАЙ БУЛЬБЯНОЙ КРАІНЕ, ВЕДАЕ БРЭНД CAMELOT І БАЧЫЎ ФІРМОВЫ ЛЯГАТЫП – ВЯЛІКІ СЬЛЕД БОТА. СТЫЛЁВЫ АБУТАК АД ГЭТАЙ ТРЭЙДАВАЙ МАРКІ ЗНАЙШОЎ ПРЫХІЛЬНІКАЎ СЯРОД ТЫХ,**
**/1/ ХТО НЕ ЖАДАЕ АБУВАЦЦА АБЫ-ЯК І АБЫ-ДЗЕ;**
**/2/ КАМУ НАДАКУЧЫЛІ КАМПРАМІСЫ ПАМІЖ СТЫЛЕМ І КАМФОРТАМ;**
**/3/ ХТО ВЕДАЕ, ЯК ІХ МОЖНА СПАЛУЧЫЦЬ.**



Першымі носьбітамі камэлотаў сталі ногі жыхароў Масквы: марка зьявілася менавіта там у 1998 годзе і пазыцыянавалася як вытворца штодзённага абутку пад джынсы і спартовае адзеньне. На беларускі рынак **CAMELOT** прыйшоў у лістападзе 2001 г., калі на праспэкце **Скарыны, 44** адкрылася першая ў краіне фірмовая крама. Дарэчы, зараз у Менску іх ужо дзьве.

## CAMELOT: why not?

Тым болей што марку адрозьнівае высокая якасьць абутку, які вырабляецца толькі з натуральных матэрыялаў. Прыкупіўшы камэлотаўскія боты, ты можаш не хвалявацца за свае ногі - яны заўсёды будуць ОК. Аднак, бадай, галоўнае - гэта мадэльны шэраг, які створаны з улікам густу і ладу жыцьця пакаленьня Х ды аднаўляецца кожны месяц. У **CAMELOT** можна бязь цяжкасьцяў знайсьці менавіта свой абутак, бо марка распрацоўвае адразу некалькі лініяў.



* Па-першае, гэта нязьменны **Street-wear** - нешта накшталт вайсковага бота, толькі значна больш стылёвае. Як відаць з самой назвы, абутак гэты прызначаны для таго, каб ты мог з задавальненьнем таптаць асфальт роднага гораду.
* **Flexible** - абутак для актыўнага адпачынку. Гнуткасьць і камфорт гарантаваныя. Колер падбярэш сам - магчыма, зь першага разу будзе няпроста, бо гэта якраз той выпадак, калі прапанова перавышае попыт.
* **Ultra stylish** - штодзённыя спартовыя мадэлі для тых, хто жадае адчуваць сябе ня толькі ўтульна, але і модна.
* **Big Shoe** - яшчэ адна лінія для прыхільнікаў спорту. Гэтыя цяжкія боты на тоўстай падэшве дапамагаюць цьвёрда стаяць на зямлі, калі яшчэ ня час лётаць у аблоках.
* Спэцыяльна для скейтэраў - лінія **Sirius** - амаль нягнуткія красоўкі з масіўным паднаском для ўстойлівасьці нагі. Хутка выходзіць новая сэрыя - **Rif-Raf**. Гэтыя мадэлі дазволяць табе не пакідаць свой чатырохколавы сродак перасову нават узімку, бо, як паказалі выпрабаваньні, яны вытрымліваюць да 40° марозу. Ready... steady... GO!!!
* Лінія **Frog**. Ты - чалавек-амфібія. Надзвычай лёгкія кеды з натуральных матэрыялаў спадабаюцца аматарам зручнага абутку. Ты адрозьніш іх па зялёным фрогу, якім прамаркіраваныя ўсе мадэлі лініі.
* Хутка вясна, за ёй - лета. Для гэтага сэзону ў **CAMELOT** ёсьць дзьве сэрыі: **Nuovo Series** - вельмі лёгкія боты кросавага тыпу зь мяккай скуры. **Habit series** - камфортныя сандалі для цябе і тваёй другой /трэцяй/... паловы. Зрабі добры абутак сваёй звычкай.

Жадаеш, каб і твае ногі абуліся ў боты ад **CAMELOT**? Самы час! Напрыканцы лютага выходзіць новая сэрыя, якая абяцае быць вельмі цікавай.

**CAMELOT** - больш чым проста абутак. У ім ты ўпэўнена пойдзеш сваім шляхам, не марнуючы часу на піт-стопах. Зь ім ты ня згубісься ў натоўпе. У ім ты сапраўды пакінеш свой сьлед на гэтым шарыку.
**Ня бойся заходзіць далёка – бойся таптацца на месцы!**

*тэкст: P&M*

## АТРЫМАЙ ПРЫЗ АД CAMELOT СТЫЛЁВЫЯ ДЖЫНСЫ, МАЙКУ ЦІ БЭГ!

**+10 іншых прызоў ад Camelot**

**Адкажы на пытаньні.**
**Пазнач сваё імя________________________**
**і кантакты (тэлефон ці што ёсьць)______________.**
**Прынясі гэты купон у краму Camelot на Скарыны, 44.**
**Дэдлайн - 31 сакавіка. Розыгрыш прызоў - 1 красавіка.**

**1. CAMELOT – ГЭТА:**
- ☐ горад, у якім жыў кароль Артур;
- ☐ сталіца апошніх зімовых Алімпійскіх гульняў;
- ☐ я ня ўмею чытаць замежнымі літарамі.

**2. ШТО ЎЯЎЛЯЕ САБОЙ ЛЯГАТЫП CAMELOT?**
- ☐ сьлед бота;
- ☐ сьлед твару на асфальце;
- ☐ ляга... што?

**3. ЯК ЧАСТА АДБЫВАЮЦЦА НОВЫЯ ПАСТУПЛЕНЬНІ Ў КРАМЕ CAMELOT (ПР. СКАРЫНЫ, 44)?**
- ☐ кожны месяц;
- ☐ кантрабандай кожную ноч;
- ☐ ой, неяк гэта ўсё складана...


**5 ЛЕТ ОПТИМИСТИЧЕСКОГО ПОДХОДА К "PC"МИСТИЧЕСКИМ ПРОБЛЕМАМ!**

DaaS computers
www.daascom.com

- Тысячи компьютеров, сделанных компанией "ДааС" с 1997 года, до сих пор служат своим хозяевам.
- Компьютеры DAAS проходят жесткую систему тестов, которая позволяет гарантировать работоспособность компьютера в любых условиях.
- Все комплектующие тестируются до их использования.
- Компьютеры DAAS создаются с учетом Ваших индивидуальных потребностей.



**КОМПЬЮТЕРЫ ДЛЯ ОФИСА**
На базе процессоров AMD Duron и Intel Celeron:
Наилучшее сочетание "цена-качество"



**КОМПЬЮТЕРЫ ДЛЯ ДОМА**
На базе процессоров AMD Athlon и Intel Celeron
скорость - AMD
надежность - Intel
производительность - Nvidia



**ИГРОВЫЕ КОМБАЙНЫ**
На базе процессоров AMD Athlon и Intel Pentium IV
Super-скорость для Mega-задач

- Ежедневно в наличии более 1000 позиций компьютерной техники и периферии.
- Актуальный ассортимент.
- Доступные цены.

Г. МИНСК
УЛ. КАЛИНИНА 7
ОФИС 55

Г. МИНСК
ПР. СКОРИНЫ 93
ПОДЪЕЗД 5, ЦОКОЛЬ, ОФИС 7

266 95 61, 285 61 71, 269 10 50, 268 38 20, 269 11 03, 269 11 01, 269 10 99

Лицензия №17509 ОТ 12/09/00 МИНГОРИСПОЛКОМ Лицензия №2613 ОТ 14/06/02 МИНПРОМ